



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Нашых Чытачоў, якія Каляды святкуюць па новым стылі, віншуем са святам.

Рэдакцыя


http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 52 (2902) Год LVI | Беласток, 25 снежня 2011 г. | Цана 3,00 зл. (у тым VAT 5%)


# Ганарыцца спадчынай



Эва Вашчынская (другая злева) і яе гімназісткі

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК

**Пра адраджэнне беларускай мовы ў школе ў Белавежы пачула я ад знаёмай у час прыватнай бяседы. Весткі не пацвярджалі навіны на сайце школы. Я пазваніла нашай карэспандэнтцы Эве Вашчынскай, каб ад яе пачуць не менш сенсацыйную вестку. Аказалася, што ўрокі ідуць ужо тры месяцы, з верасня. І вядзе іх не хто іншы, толькі мая субяседніца.**

— Нешта ў канспірацыі вы ўсё арганізавалі... — пачала я.

— Ведаеце, пакуль у нас няма яшчэ чым пахваліцца, — пачуўся сціплы адказ.

Маю заўвагу пра канспірацыю наклікалі нядаўнія перашкоды ў арганізацыі навучання ў Крынках, дзе спробы ўвядзення мовы закончыліся ксенафабічнай разборкай і паразай.

Мы адразу дамовіліся на сустрэчу, каб на месцы пагаварыць пра складанасці і шырэй асвятліць, што тут казаць, цудоўную з'яву.

* * *

Раман Бугвін, намеснік дырэктара школы, быў рады, што іх школай цікавіцца беларуская прэса. Чаму шырэй не асвятлялі прысутнасці беларускай мовы ў школе?

— Мы яшчэ не ведаем што з гэтага атрымаецца, — кажа, — ці прыжывецца яна ў Белавежы. Пачатак нас задавальняе. З маіх назіранняў відаць, што вучні ахвотна прыходзяць на ўрокі да спадарыні Эвы.

На месцы аказалася, што прапанова адраджэння мовы выйшла ад саміх настаўнікаў.

— Многія нашыя выпускнікі паступаюць у гайнаўскі беларускі ліцэй, — адзначае мой субяседнік. — Мы падумалі, каб выйсці ім насустрач, каб паступаючы ў ліцэй яны мелі ўжо падрыхтоўку.

Раман Бугвін успамінае сямейную гісторыю, калі ў белліцэй паступіла без ведання мовы яго дачка. Спачатку вельмі баялася ці зможа падагнаць сваіх равеснікаў. Ды і сям'я перажывала яе хваляванні. На шчасце, пасля першых урокаў, яна заявіла: *Ведаеце, беларуская мова зусім не страшная. Гэтак размаўляе наша бабуля!*

Цягам апошніх гадоў у Белавежы пачалі з цікавасцю глядзець на беларускую культуру. Першай ластаўкай адраджэння быў вакальны гурт «Ручаёк» з якім працуе Марк Зубрыцкі. Вакол гурту аб'ядналіся маладыя, дзеці, сем'і...

— Нам вельмі залежыць каб вучні развівалі свае сямейныя традыцыі, — кажа Раман Бугвін, — каб беларуская мова ў школе паспрыяла кантактам з беларускім асяроддзем. Хацелі б арганізаваць у сябе сустрэчы з беларускімі творцамі, сустракацца з прэсай і медыямі. Час ад часу арганізаваць у школе лінейку па-беларуску, паказаць спектакль. Ну і наладзіць кантакты з беларусамі на другім баку мяжы. У многіх нас, як у мяне самога, там сямейныя карані.

* * *

У дзень, калі наведала я Белавежу, у школе панаваў настрой свята і перамогі. Мясцовыя валейбалісты перамаглі каманды з Монькаў і Тыкоціна ды апынуліся ў паўфінале. Школа не раз ужо прадстаўляла Падляшскае ваяводства на агульнапольскіх спаборніцтвах па валейболе. У час маёй пабыўкі малыя і старыя хвалілі талент настаўніка фізкультуры Ярослава Куцікава.

— Скажу крыху метафарычна, — кажа Эва Вашчынская. — Часам гэтак званая жыццярадаснасць вучняў мяшае павесці ўрок.

Хоць мы сустрэліся а палове другой гадзіны пасля абеду, энергія валейбалістаў здавалася быць неўтаймаванай. Хлапчукі з усёй сілы стараліся штось даказаць, пахваліцца поспехамі. І развесяліць дзяўчат, якія глядзелі на іх крытычным вокам.

— Каб павесці ўрок, трэба падабраць універсальны для ўсіх ключ, — кажа Эва Вашчынская, — каб прапанову зразумелі аднач асова вучні чацвёртага і шостага класаў. Трэба да ўсіх дапасавацца, часам застацца пасля ўрокаў, пагутарыць з паасобнымі вучнямі.

* * *

— Я стала настаўніцай дзякуючы добрай выпадковасці, — прызнаецца спадарыня Эва. — Прапанова павесці заняткі прыйшла ў час, калі мы разам з мужам рашылі пераехаць жыць з Варшавы ў Белавежу. Спачатку запісалася 20 дзяцей, пасля яшчэ адна далучылася. Ці ініцыятыва стрывае спробу часу? Цяжка сказаць. Гэта дадатковыя ўрокі, пасля абеду, тады вучні ўжо звычайна стомленыя, марацць пайсці дахаты.

— А Вашыя мары?

— Ну вось, мае мары звычайныя. Мне хацелася б чагосьці навучыць маіх вучняў. Каб яны выраслі на добрых людзей, якія належным чынам ацэняць каштоўнасць спадчыны. Каб зразумелі яе вялікую вартасць.

Эва Вашчынская, хоць у сваёй хаце заўсёды чула белавежскую гутарку, свядомай беларускай стала пасля навукі ва ўніверсітэце. Будучы студэнткай славянскай філалогіі ў Варшаве, рашыла напісаць магістэрскую дысертацыю пра гутаркі белавежцаў (у прафесар Ніны Баршчэўскай). Лёс спалучыў яе з хлопцам з Варшавы, выпускніком беларускай філалогіі.

— Цяпер ён правярае ўсе мае працы і кажа дзе якая ў мяне памылка. Бо час ад часу, мне, замест літаратурнай мовы, трапляецца белавежская гаворка.

У Рамана Бугвіна таксама свае мары наконт беларускай мовы ў школе:

— Можа ў будучыні мы прыжывем і лаўрэатаў па беларускай мове, бо да гэтай пары мы мелі шмат поспехаў па рускай мове. Напэўна кожны наш поспех падыме і парадуе беларускую меншасць у Белавежы. Час, каб мы пачалі ганарыцца сваёй спадчынай і культурай, дзе асновай з'яўляецца пісьменнасць.



Раман Бугвін





*Гадавіна*

# *Ад 19 да 19*

*Пішучы гэты артыкул якраз пад 19 снежня — гадавіну падзей у сталіцы Беларусі, само сабой прыходзіш да падсумавання гэтага няпростага каляндарнага адрэзка. Кожны пражыты год прыносіць нам новыя страты і расчараванні, хваробы і выпрабаванні, спакусы і выклікі. У старым тэлефонным нататніку ўсё болей з'яўляецца прозвішчаў у рамачках тых, хто адышоў у лепшы свет, а ў мабільных тэлефонах нумароў тых, хто ўжо ці пакуль недасяжны — адны ў турме, іншыя за мяжой. 19 снежня 2010 года стала тым паваротным пунктам адліку, пасля якога ўсе палітычныя, грамадскія, сацыяльныя працэсы пайшлі куды хутчэй і выразней. Год быў надзвычай цяжкі для ўсіх насельнікаў Беларусі, а для некаторых нават трагічны. Выбух у мінскім метро прынёс смерць больш дзесятка чалавек, многія іншыя былі скалечаны, у беларускія сем'і прыйшла бяда такога кшталту, якога раней у краіне не было. Зараз адны вельмі хочуць хутчэй забіць яшчэ двух чалавек, выканаўцаў тэрарыстычнага акту, віна якіх да канца не ясная і не даказаная. Іншыя іх бароняць — з прычыны, што забіваць людзей нельга і з той мэтай, каб даведацца ўсю праўду. За кратамі ў турмах, у нялюдскіх умовах, якія пасутнасці ёсць катаваннямі, дагэтуль знаходзяцца зняволеныя пасля 19 снежня, з'яўляюцца іншыя палітвязні.*

*Год прывёў да краху некаторых таталітарных рэжымаў, пераважна ў арабскім свеце. Іншыя дыктатуры таксама пахіснуліся, далі трэшчыну, але працягваюць усімі спосабамі ўтрымліваць уладу, не шкадуючы сваіх грамадзян, не грэбуючы самымі гнюснымі сродкамі. Але праўда пра іх спакваля праяўляецца і становіцца ўсведамленнем і здабыткам усё большай колькасці насельнікаў тых краін, дзе няма асноўных канстытуцыйных дэмакратычных свабод, няма вяршэнства закону, няма сапраўдных выбараў. Гутарка тут пра Расію, Беларусь, Казахстан...*

*Палітыкі пражываюць сваё жыццё па рознаму. 18 снежня памёр Вацлаў Гавэл, вялікі чэшскі дысідэнт, выдатны еўрапейскі палітык і мысляр. Чалавек, які сцвердзіў праўду ўсім сваім жыццём, прынёс гонар сваёй нацыі, трымаўся сапраўдных еўрапейскіх гуманістычных прынцыпаў, якіх амаль не засталося ўжо на кантыненце. Палітык, які разам са сваімі аднадумцамі дасягнуў перамогі і застанецца ў памяці як выдатны чалавек. Яго імем назавуць плацы і вуліцы многіх чэшскіх гарадоў, некалі будзе ён належна ўшанаваны і ў Беларусі — за тое, што ўвесь час маральна падтрымліваў дэмакратычную супольнасць, падаваў свой голас у абарону несправядліва пакрыўджаных, незаконна засуджаных.*

*Зусім іншым быў канец лівійскага чалавека-ненавісніка Муамара Кадафі, імем якога зараз называюць толькі сабак, што ў арабскім свеце лічыцца вялікай абразай. І праўда перамагае заўсёды. Вось адкрылася праўда пра былога французскага прэзідэнта Жака Шырака, выявілася, што ўся яго палітычная кар'ера была фальшывай. На жаль, у сённяшняй Еўропе куды больш такіх „шыракаў", чым „гавэлаў"...*

*Згадваючы падзеі гадавой даўніны, можна яшчэ раз сцвердзіць, што ў нас была гэтая плошча, на якую беларусы „прынеслі сваю праўду". Была і ёсць годнасць нацыі, якую не растаптаць ботамі карнікаў, не знішчыць іх дубінамі і змрочнымі турмамі. Зараз сярод бальшыні беларускіх грамадзян, якія задумваюцца пра лёс сваёй шматпакутнай Бацькаўшчыны і пра свой асабісты лёс, дамінуюць песімістычныя настроі. Але не трэба паддавацца такім настроям. Тыя ж чэхаславацкія дысідэнты ў камуністычныя часы складалі свае аддаленыя планы змагання і марылі, што дасягнуць свабоды праз якіх дваццаць гадоў. А яна — гэтая вольнасць, прыйшла зусім нечакана, праз пару тыдняў.*

*І кожны год, разам з Раством Збаўцы, нараджаецца і надзея на тое, што свет стане крыху лепшым, што новы год прынясе збаўленне ад зла, нараджаецца вера, што ўсё мае сваё вымярэнне і свой сэнс.*

*„Беларусы дачакаюцца лепшых часоў" — сказаў нам усім Вацлаў Гавэл.*

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# *Перагнуцца і выпнуцца*



*Перагін выклікае выпяцце — гэтае правіла павінны ведаць усе палітыкі. Аказваецца, аднак, што не ўсе. Ёсць, вось, такія, што безупынна перагінаюць, не зважаючы на тое, што істотная частка электарата выпінаецца на іх азадкам штораз больш. Сумнае гэта. Ды што там! Суцешыла мяне вестка, што прэзідэнт РП, дзень да гадавіны ваеннага становішча, паставіў у акне Бельведэра сімвалічную свечку дзеля ахвяр ваеннага становішча, і даклейваючы да гэтага салідарызм з беларускім народам, таксама дзеля ахвяр лукашэнкаўскага рэжыму. Важны гэты жэст. Сімвалічны жэст. Толькі што сімвалаў у польска-беларускіх стасунках ужо хіба зашмат. Папраўдзе не ведаем, што адбываецца за кулісамі вялікай палітыкі, ды бачым, што адбываецца на сцэне. Мітусяцца па ёй нейкія і перасоўваюць дэкарацыю. Каб толькі гэта не было зместам спектакля!*

*Вось і няхоцькі выклікаў я тэму ваеннага становішча. Штогод тое самае, адсвяткоўваюць і адсвяткоўваюць... Дарэчы, гэта добра, што тое самае, бо не дай Божа, каб гісторыя кіравалася вернападдана за празмерна пабуджанай уладай. А бывала так. У 1954 годзе савецкі падпісчык Энцыкалапедыі атрымаў па пошце новую старонку з парадай, каб вырваць з адпаведнага тома лісток з біяграфіяй Берыі і пакласці туды тую прысланую дарам з больш слушным зместам. Мусіла гэта быць вельмі ўтамляльнае. На жаль, у кожным грамадскім ладзе, які б ён не быў, наступае момант вычарпання. Можа быць яно ідэалагічнай натуры, а можа інстытуцыянальнай. У кожным выпадку дае ў выніку агульнае незадавальненне, падзелы і штораз большую кантэстацыю ўлады. А тая, страчваючы сілу звязаную з грамадскім легітымізмам, перакідвае сваю энергію са зместу на форму, узмацняючы розныя ўрачыстыя акцыі. Таму святкуе яна гадавіны свае хвалы, дае вуліцам, школам слушныя імёны слушных патронаў, адкрывае помнікі і пераконвае да сябе медалямі яшчэ неперакананых. Такія дзеянні маюць з'яднаць паводле яе штораз больш разбіты і праклінаючы народ. Таму трывожыць мяне, што аб снежаньскіх сумных падзеях штораз больш бубніцца ў медыях і штораз гусцей сыплюцца медалі. Не хачу гэтым сказаць, што не для заслужаных! Мая знаёмая, пажылая жанчына, ветэранка стоек у чэргах у ваенным становішчы, нядаўна бомкнула аб геройстве жанчын таго перыяду. А што, калі праз пару гадоў акажацца, што з „камунай" усе ваявалі, уключаючы СБ, міліцыю і партыйны апарат — які ж не быў пазбаўлены валенродскага чуцця? Валенродтва не выдумаў аднак Адам Міцкевіч, а жыццё. У час ваеннага становішча пачаў я размову са старэйшым нёю аднаго гуртка ЗБОВіД, старэйшым ад мяне на больш чым дзесяць гадоў. На пытанне, якім то спосабам дасталася яму членства ў гэтай ветэранскай арганізацыі, сказаў, што пад канец вайны, будучы пяцігадовым смургелем, перакрадваўся з гаршочкам малака пад бокам гітлераўцаў стаяўшых у вёсцы, у блізкія кусты, дзе хаваўся... дэзерцёр. Быў гэта добры немец, які праз гады даслужыўся генеральскага рангу ў брацкай арміі ГДР. Мой суразмоўца назваў свой пачын дзіцячым геройствам, якое ўзнагародзіла жыццё. Вось што!*

*Яшчэ пакуль упала камуна, памяталася гучнае 1 верасня. Па прынцыпе „хто першы той лепшы", аб 17 верасня шапталіся па кутках. У той дзень абдзялялі саратнікаў медалямі. Даўні той час, ды не адзін грамадзянін успамінаў яго са слязой, так як я гэсаўскі шынок у Нарве пад мілай назвай „На скарпе". Быў ён такі які быў, ды з'яўляецца часткай маёй маладосці. Так як і чарговыя ўгодкі атакі Нямеччыны на Польшчу. Не ведаю, калі ўмацавалася традыцыя, каб у трэцюю з чымсьці ў поўдзень, будучую рэверсам першаверасня світання, усе ўшаноўвалі той момант паставай па зважай. А спадарожнічаў гэтаму страшэнны роў сірэн. У такі вось момант я меўся паказацца першы раз свету. Перапалохаў мяне, аднак, гэты гам, а асабліва тое калектыўнае выпінанне грудзей. Толькі калі запанавалая мёртвая цішыня, пасля доўгіх пертрактацый з заўзятай акушэркай (Нюсяй яе звалі), я рашыў нарадзіцца. Ну, моцна яна тады перагнула, бо шантажавала мяне абцугамі для родаў. Ды я гэта зразумеў і не выпнуўся на яе. Ужо тады меў я інтуіцыю, што выпінанне неабавязкова з'яўляецца адпаведнай рэакцыяй на перагін. А раптам мне мелі б ушпіліць медаль...*

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# *Цяпер Інтэрпол?*



*Дзень да трыццатай гадавіны ўвядзення ваеннага становішча ў Польшчы, дайшло да нямёмкага інцыдэнту ў адносінах да чарговага беларускага апазіцыянера. Некалькі месяцаў раней польская пракуратура рассакрэціла па сіле польска-беларускага паразумення аб юрыдычным абмене данымі банкаўскія рахункі Алеся Бяляцкага, кіраўніка Праваабарончага цэнтра „Вясна", што стала падставай для яго арыштавання ды пакарання на чатыры з паловай года карнай калоніі. У гэты раз у варшаўскім аэрапорце „Акенце" Памежная ахова спыніла — па распараджэнні Беларусі расшукванага паліцыйным Інтэрполам — Алеся Міхалевіча, незалежнага кандыдата ў мінулагодніх прэзідэнцкіх выбарах, уцекача, які карыстаецца чэшскім бежанскім дакументам. Сам Міхалевіч пасля затрымання сказаў сайту „Хартыя '97":*

*— Мабыць спынілі мяне на падставе таго самага дагавора, у сілу якога былі раскрыты рахункі Алеся Бяляцкага.*

*І дадаў са шкадаваннем: „Калі першы выпадак іх не навучыў, дык што зробіш".*

*Зараз пасля затрымання Алесю Міхалевічу ўдалося паінфармаваць аб гэтым факце Алеся Зарэмбюка, які кіруе Беларускім домам у Варшаве. Той у сваю чаргу скантактаваўся з польскім МЗС. Віцэ-міністр гэтага ведамства Кшыштаф Станоўскі (па даручэнню міністра Радаслава Сікорскага) неадкладна падаўся на „Акенце" з інтэрвенцыяй. Адначасова папярэджаная Акруговая пракуратура ў Варшаве тэрмінова вырашыла аб неадкладным вызваленні былога кандыдата на прэзідэнта. Прытым, як тлумачыла гэтае рашэнне яе прэс-сакратар Моніка Левандоўская:*

*— Беларусь адмовілася ад судовага пераследу [прытым да інцыдэнта ў аэрапорце — М. Х.].*

*Высветліла яна пры нагодзе, што пракуратура здабыла інфармацыю ад Інтэрпола, што Беларусь не падавала заявы на яго тымчасовы арышт. Застаецца пытанне: хто правініўся ў гэтай справе? Віцэ-міністр замежных спраў Ежы Памяноўскі намякнуў, што — як гэта назваў — памылку магла зрабіць Памежная ахова. Сказаў журналістам:*

*— Калі маем дачыненне з асобай з Беларусі, якой абвінавачанні гучаць, як у выпадку Міхалевіча, у выкліканні грамадскіх беспарадкаў, дык простым вокам глядзеўшы сярэдне талковы афіцэр кожнай службы ў змозе разабрацца ці маем дачыненне з тэрарыстам, ці арганізатарам грамадскіх пратэстаў. Асабліва калі спадар Міхалевіч пераскаў мяжу на чэшскім бежанскім пашпарце. Колькі яшчэ інфармацыі трэба, каб зарыентавацца, што маем дачыненне з кімсьці, хто не падыходзіць да профілю тэрарыста?*

*Я тут не вырашу, хто ў выпадку спынення Алеся Міхалевіча віноўны: Памежная ахова, Інтэрпол, ці іншыя службы, хоць мне здаецца, што Інтэрпол. Суцяшае тое, што прэс-сакратар урада Павел Грась рашуча перадаў сігнал, што функцыянеры разнародных польскіх службаў (паліцыі, Памежнай аховы і гд.), мусяць мець ясна і дакладна сфармуляваныя працэдуры, каб не здараліся такія ініцыдэнты. У той самы час, калі вырашалі аб далейшых лёсах Алеся Міхалевіча, у сядзібе МЗС адбывалася ўрачыстасць прысваення Алесю Бяляцкаму ўзнагароды кіраўніка знешнепалітычнага ведамства: Pro Dignitate Humana „за выдатнае заангажаванне і непахісную пазіцыю дзеля абароны правой чалавека і чалавечых каштоўнасцей". Ад імя лаўрэата ўзнагароду прыняла яго жонка. У той самы дзень (пасля таго як польскае МЗС фундавала Алесю Міхалевічу білет на далейшае падарожжа) у вокнах Прэзідэнцкага палаца Браніслаў Камароўскі разам з жонкай запаліў свечку з нагоды гадавіны ўвядзення ваеннага становішча. Прэзідэнт успомніў:*

*— Мы запалілі гэтую свечку з асаблівай, сардэчнай думкай аб нашых братах беларусах, аб беларускіх вязнях сумлення, таму што хацелі адзначыць нашу польскую салідарнасць з імі.*

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Дзеткі цікавыя беларускасці

**У Садку № 1, што знаходзіцца па вуліцы Ягайлы ў Гайнаўцы, з 2003 года арганізуюцца дадатковыя заняткі, у час якіх дзеткі знаёмяцца з традыцыямі і культурай сваіх бацькоў, дзядоў і прадзедаў. На спатканні з дашкольнікамі запрашаюцца людзі, якія ведаюць даўнія прафесіі і хатнія заняткі, з якімі большасць дзетак ужо не сутыкаецца нават у сваіх бабуль у вёсках. Дашкольнікі вучацца беларускім песням, даўнім дзіцячым гульням, танцам, прымаўкам і прыказкам на мове сваіх бацькоў, выступаюць перад публікай. Дзеткі прымаюць удзел у конкурсах і аглядах, дзе прэзентуюць беларускія песні, калядкі і вершыкі. Дадатковыя заняткі пачаліся з супрацоўніцтва гайнаўскага прадшколля з Садком № 14 у Беластоку і сталі вынікам рэалізаванага восем гадоў таму з дапамогай бацькоў і настаўніцкага калектыву праекта „У бок тоеснасці. Крок першы — прадшколле” пры дапамозе гранта ад Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь. Пасля штогод у Садку № 1 ладзіліся дадатковыя заняткі з ухілам на традыцыю і беларускую культуру, з выкарыстаннем уласных сродкаў і з актыўнай дапамогай бацькоў. Ініцыятарамі і галоўнымі арганізатарамі заняткаў сталі настаўніцы Міраслава Ніканчук і Ала Супрун. У першай палове гэтага года ў згаданым прадшколлі рэалізаваліся больш разнародныя заняткі ў рамках праекта „Дашкольнік з традыцыяй”, да якога прыступіў таксама Садок № 5 у Гайнаўцы.**

— У рамках дадатковых заняткаў нашы дзеткі знаёмяцца з культурай і традыцыяй нашага рэгіёна. Да адукацыі дзетак у напрамку нашай традыцыі і беларускай культуры заахвоцілі нас бацькі тадышніх беластоцкіх дзетак з Садка № 14 у Беластоку — Барбара Пякарская, Тамара Карнілюк і іншыя знаёмыя нам бацькі. Мы ў 2003 годзе наладзілі супрацоўніцтва з беластоцкім прадшколлем, — заяўляе настаўніца Міраслава Ніканчук.

У рамках першага праекта на прадшкольным панадворку былі збудаваны міні-хатка, міні-вятрак і міні-калодзеж, побач якіх гуляюць дзеткі па сённяшні дзень, толькі што гэтыя міні-будоўлі ўжо крыху знішчыліся. Пачынаючы з першых сустрэч, дзеткі вучацца ляпіць з гліны, выплятаць з саломы і ракіты, знаёмяцца з хатнімі заняткамі жанчын. Кожны год заняткі ўзбагачаюцца штораз то новымі прапановамі. Дзеткі з гайнаўскага прадшколля пабывалі ў беларускім міні-музеі ў Скарышэве, дзе з даўнімі прыладамі працы, старымі палатнянымі, гліндянымі, жалезнымі ці драўлянымі вырабамі знаёміў іх Міхал Філяновіч. Падобны рэгіянальны музейчык наведалі ў Кленіках. Гайнаўскія дашкольнікі, якімі апякуюцца ў час рэгіянальных заняткаў Міраслава Ніканчук і Ала Супрун, часта выступаюць па-беларуску ў час Фестывалю нацыянальных меншасцей, што ладзіцца ў Садку № 14 у Беластоку, спяваюць на конкурсах беларускай песні, што ладзіць для школьнікаў БГКТ, пастаянна прымаюць удзел у „Сустрэчах з праваслаўнай калядкай” у Гайнаўскім доме культуры.

— Мы рыхтуем нашых дзетак да выступаў з беларускімі песнямі, бо яны любяць спяваць. Мы многа спяваем у ходзе рэгіянальных заняткаў, — кажа Ала Супрун.

Нядаўна з вялікай праграмай дзеткі з Садка № 1 выступілі ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы ў час „Мастацкіх сустрэч школьнікаў”. Спявалі там песні на беларускай літаратурнай мове, гаварылі па-свойму прымаўкі, запрэзентавалі даўнія танцы і гульні, якім навучыліся ў час дадатковых заняткаў. Дашкольнікі атрымалі не толькі вельмі гарачыя апладысменты, але і пахвалу за сваё майстэрства. Зараз, калі паўсюдна чуюцца размовы нашых дзетак па-польску, адважны выступ дашкольнікаў на беларускай літаратурнай мове і на гаворцы выклікаў сапраўднае захапленне. Частку праграмы настаўнікі і дзеткі распрацавалі яшчэ ў рамках вялікага праекта „Дашкольнік з традыцыяй”, які да позняй вясны гэтага года рэалізавалі пад наглядам Гарадской управы, а канкрэтна інспектара па справах асветы, культуры і спорту Іаланты Стэфанюк, з фінансавай падтрымкай Еўрапейскага грамадскага фонду. Хаця ў гэтым праекце ў асноўным прынялі ўдзел дашкольнікі, якія ўжо сталі першакласнікамі, то частку дзетак састаўлялі тады малодшыя на год сябры, якія цяпер выступілі ў гайнаўскім музеі з іншымі дашкольнікамі.



Дашкольнікаў рыхтуюць настаўніцы Міраслава Ніканчук (злева) і Ала Супрун (каля дзетак)

— Нашым гульням і танцам вучылі дзетак Анна і Дарафей Фіёнікі з Музея малой айчыны ў Студзіводах. Менавіта гэтыя заняткі моцна зацікавілі дашкольнікаў. Дзеткі вучыліся размаўляць па-свойму, бо гэтага патрабавалі правілы гульняў, — гаварыла Міраслава Ніканчук.

— Некаторыя дзеткі ўжо і раней умелі гаварыць на мясцовым дыялекце, што можна было пачуць на калідоры, асабліва пасля выхадных, калі дашкольнікі выязджалі на адпачынак да бабуль, — сказала дырэктар Садка № 1 Ірэна Гапунік і пахваліла настаўніц Міраславу Ніканчук і Алу Супрун за вялікую ангажаванасць у дадатковыя заняткі. — Такія заняткі вельмі патрэбныя дзеткам, каб нашы традыцыі не былі забытымі. Я вельмі ўдзячная ўладам за дапамогу ў рэалізаванні апошняга праекта і бацькам, якія так моцна ангажуюцца ў яго рэалізацыю. Асабліва вялікую актыўнасць праяўлялі яны пры праекце „Дашкольнік з традыцыяй”.

У гайнаўскім прадшколлі вялікае зацікаўленне дадатковымі заняткамі. Прымаюць у іх удзел не толькі дзеткі бацькоў, якія лічаць сябе беларусамі, але таксама дашкольнікі польскай нацыянальнасці, якіх зацікавіла разнароднасць гульняў, песень, танцаў і сустрэч.



Дзеткі з Садка № 1 нядаўна ў вялікай грамадзе выступілі ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы (на першым плане „Беларусачку” спявае Каміль Вашковяк)

— Мы стараемся выходзіць таксама па-за нашае прадшколле, каб нашу работу ўбачыла шырэйшая публіка ў час конкурсаў і аглядаў. Выступы наймалодшых заўсёды выклікаюць вялікае зацікаўленне публікі. Важна, што нашы дзеткі ведаюць што гавораць, і што спяваюць і покі хопіць сіл настаўніцам Алі і Міраславе хочам працягваць дадатковыя заняткі з ухілам на нашыя традыцыі і культуру. Падобныя заняткі, толькі што ў меншым маштабе, вялі ў нас настаўніцы Гражына Кулай і Анэта Юрчук, — гаварыла дырэктар Ірэна Гапунік.

— Прымаўкі і спалучаныя з імі гульні „Бегаў зайчык по капусті” або „Бегла свінка по лёду”, ці танцы з элементамі карагодаў вельмі падабаліся дзеткам. Нават дашкольнікі больш ахвотна вучацца нашым даўнім гульням і беларускім песням, чым хочуць займацца па-польску, — расказвала Міраслава Ніканчук. — У рамках праекта „Дашкольнік з традыцыяй” запрашалі мы народных творцаў або проста людзей, якія ведаюць даўнія прафесіі, каб знаёмілі з імі нашых дзетак.

Зоя Майстровіч з Рудутаў, апрача саломапляцення, чытала дзеткам свае беларускія вершы. Вольга Максімюк з Ляўкова вучыла дзетак ляпіць з гліны. Частка вырабаў дашкольнікаў па сённяшні дзень знаходзіцца ў асобнай зале, прызначанай на дадатковыя заняткі. У гэтым кабінеце знаходзяцца таксама звязда, з якой дашкольнікі калядуюць штогод і штогод нанова яе абклейваюць, раней выкананыя выцінанкі, вырабы з ракіты, саломы, ці гліняныя гаршкі, якія паставілі на сапраўдную кафляную пліту (зала якраз распаложана побач кухні). Гэта дапамагае дзеткам уявіць даўнія хатнія заняткі жанчын на кухні. Частка экспанатаў знаходзіцца таксама ў зале, дзе дашкольнікі займаюцца штодзень і выконваюць яны ролю дэкарацыі і адукацыйных прылад.

— Раіса Ярмаловіч з Дубіч-Царкоўных у рамках апошняга праекта вучыла нашых дзетак фарбаваць яйкі даўнімі спосабамі. Дашкольнікі выконвалі ўзоры на яйках з выкарыстаннем воску, а пасля іх фарбавалі традыцыйным спосабам, — успамінала Міраслава Ніканчук. — Аднак найбольш захаду было, каб у рамках праекта пашыць аднолькавыя ўборы з беларускімі арнаментамі, бо трэба было падабраць адпаведныя ўзоры і падшукаць ільняное палатно.

Гайнаўскія дзеткі ў рамках праекта выязджалі таксама на экскурсію ў Музей малой айчыны ў Студзіводы, дзе пазнаёміліся з тамашнімі экспанатамі, а ў час фестывалю „Там по маёвуй росі” слухалі даўнюю музыку ў выкананні музыкантаў з Мінска, а таксама гулялі пад іх музыку. Дашкольнікі наведалі скансэн у Дубічах-Царкоўных, дзе дакладней пазнаёміліся з вырабамі даўняга рамяства.

— Кожнае нашае дзіцё паспрабавала ткаць палавікі пад наглядам Раісы Ярмаловіч. Яна таксама вучыла нашых дашкольнікаў выконваць папяровыя кветкі паводле даўніх узораў. Дзеткі знаёміліся з працэсам выпечкі булак даўнім спосабам, — успамінала спадарыня Ніканчук.

Апошні праект закончыўся выступам дзетак і пачастункам нашымі стравамі, між іншым, бульбяной кішкай, сваім хлебам са шмальцам, які папівалі хлебным квасам.

— Мне падабаюцца дадатковыя заняткі, бо я люблю спяваць. У нас таксама прыгожыя ўборы, — заяўляе Хрыстафор Амельянюк.

— Я перш за ўсё люблю спяваць, — кажа Каміль Вашковяк, які перад публікай праспяваў „Беларусачку”.

— А мне падабалася, калі мы ляпілі з гліны. Многія іншыя гульні таксама былі цікавымі, — гаворыць Клаўдзія Ніканчук.

— Мы вельмі цешымся, калі дзеткі радуюцца ў час заняткаў. Гэта заахвочвае да далейшай працы з дашкольнікамі, — кажуць на заканчэнне размовы настаўніцы Міраслава і Ала.

Штогод усім дзеткам з Садка № 1 пякуць традыцыйны ласунак — бусліную лапу, якую дашкольнікі з задавальненнем спажываюць.

## У Ляўкове 45 гадоў таму

Сёлета ў бацькоўскім старым доме ў Ляўкове (Гайнаўскі павет) я знайшоў нататкі, якія рабіў у 1965-1970 гадах. У той час я працаваў настаўнікам у Пачатковай школе ў Старым Ляўкове. У вышэйзгаданы перыяд у Ляўкове адбыліся вялікія перамены.

Новае Ляўкова — вёска над рачулкай Баброўкай і над ракою Нараўкай. Усе дамы і сельскагаспадарчыя будынкі былі драўляныя. Стадолы і хлявы пераважна мелі саламяныя стрэхі. Дамы крылі чарапіцай. На хлявах да г.зв. латаў прывязвалі кулікі або крылі „пад шапку". Жыхары займаліся земляробствам, хадзілі ў лес па ягады і грыбы. Ад вёскі да лясоў Белавежскай пушчы рукой падаць. Вуліца была брукаваная, а іншыя дарогі гэта гравійкі. На Бброўцы і Нараўцы пабудавалі жалезабетонныя масты (я памятаю яшчэ драўляныя).

У Новым Ляўкове паабапал вуліцы раслі высокія дрэвы: найбольш ліпаў, вязаў, бяроз ды вербаў. Над ракой раслі вольхі. У агародзе маіх бацькоў расла самая вялікая бяроза ды дзве вярбы (адна з іх расце і цяпер).

З летніх кветак у агародчыках раслі жоўтыя вяргіні ды чырвоныя півоні. У маі цвілі бэз, чаромха і язмін. Перад хатамі стаялі лавачкі. Пасярэдзіне вёскі моладзь пабудавала пляцоўку для танцаў. „Гарадзілі" яе маладзенькімі бярозкамі.

У 1966 годзе арганізавалі сельскагаспадарчы гурток. Уступіла ў яго 12 гаспадароў. Найперш купілі малацілку і рухавік „эс" на нафту. Раней хто малаціў цэпам, а яшчэ хто коннай малацілкай-тарганкай, спалучанай з рузвэркам. Да шырокамалоткі надаваўся толькі матор. А веялі збожжа ручной веялкай (дамфай).

Увялі механізацыю палявых работ і сялянам стала лягчэй працаваць. Зметяравалі надрэчныя сенажаці і не трэба было насіць травы на грудочкі, каб там яе сушыць. Дагэтуль былі гэта заліўныя лугі.

У пачатку 1967 года вёску электрыфікавалі. Вечарам бліснулі электралямпачкі вулічнага асвятлення. У дамах зайгралі радыёпрыёмнікі, завуркаталі пральныя машыны. Моладзь хадзіла ў суботнія і нядзельныя вечары ў святліцу на чыгуначным вакзале ў Плянце глядзець тэлевізар. Мой сусед зрабіў падпіску на часопісы „Gromada — Rolnik Polski" і „Plon".

Даволі вялікай падзеяй ва ўсім наваколлі было адкрыццё клуба „Рух" у Старым Ляўкове. Маладыя юнакі і дзяўчаты арганізавалі гурток Саюза вясковай моладзі. Узначаліў яго Генік Несцярук.

За суседняй вёскай — Старым Ляўковам — пачалася пабудова керамічнай фабрыкі. Прынялі на працу 77 мужчын. Па ініцыятыве дырэктара завода 1 снежня 1966 года ў мясцовай школе арганізавалі вячэрнія курсы для дарослых, якія не мелі закончаных сямі класаў. Заняткі вялі настаўнікі Васіль Целушэцкі, Ніна Кірылюк, Марыя Андрушкевіч і Янка Целушэцкі (кіраўнік курсаў). Навуку паспяхова закончылі 15 асоб. З вялікім задавальненнем яны прыйшлі атрымаць пасведчанні. Колькі было радасці!

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

*По дарозе з Беластока ў Кузніцу, пяць кіламетраў перад Саколкай, знаходзіцца незвычайнае месца, стваральнікам якога з'яўляецца яшчэ больш незвычайны чалавек. У невялікай вёсцы Янаўшчына адзін з яе жыхароў, **Ян Анцыпа**, заснаваў „Рэгіянальную ізбу". Можна тут убачыць не толькі матэрыяльную частку спадчыны сялянскага несельніцтва Сакольшчыны, але і задумацца над уласнай тоеснасцю.*

# Гаворым, толькі ціха

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

Калі Ян Анцыпа пачынаў рамантаваць святліцу, якой ужо многа гадоў ніхто не карыстаўся, жыхары Янаўшчыны круцілі галовамі, здзіўленыя яго пастановай. Нават калі ўдалося дастаць ад гміны бляху на дах, які працякаў, ніхто не схацеў прыйсці яму з дапамогай. Рамантаваў яго амаль паўгода.

*Ян Анцыпа: **— Цяпер дах ужо так не працякае, але ён не да канца добры, таму што я не ўмею гэтага зрабіць.***

Святліца пераходзіла розныя змены. Спачатку ў адным пакоі сабраныя былі экспанаты, а ў другім стаяў більярдны стол. Кожны мог прыйсці і пагуляць.

***— Не доўга так выглядала, таму што людзі ў цяперашні час маюць камп'ютары і тэлевізары. Святліца не магла выконваць такой ролі, як даўней, таму што яна была б непрывабнай для жыхароў вёскі.***



Ян Анцыпа



Мясцовыя дзяўчаткі

Усё пачалося ад выстаўкі ў школе. Дзеці прынеслі даўнія прылады, якімі сёння ўжо людзі не карыстаюцца.

***— Калі я ўбачыў гэтыя прадметы, падумаў, што так многа іх яшчэ ў нас на вёсках. Жаль проста гэтага ўсяго, каб так загінула.***

З гэтай пары Анцыпа збіраў даўнія прылады са сваёй і з навакольных вёсак.

***— Сам не магу сказаць як многа экспанатаў знаходзіцца ў „Рэгіянальнай ізбе".***

Святліца сёння вітае надпісам „Рэгіянальная ізба". З вуліцы відаць завешаныя ў вокнах белыя, тканыя шторы. Перад будынкам стаіць некалькі сельскагаспадарчых машын. Усярэдзіне — пакой з печкай, каля якой сушыцца зелле, сцены абвешаныя макаткамі, якія вітаюць гасцей і жадаюць смачна есці. Старыя, драўляныя паліцы трымаюць незлічоную колькасць гліняных кубкаў, бочак, драўляных лыжак. На падаконніку жоўкне празмо. Па ўсіх пакоях расстаўленыя памяткі даўняга сялянскага жыцця. Аб кожным прадмеце Анцыпа можа расказаць гісторыю.

***— Гэтым бязменам даўней важылі хлеб. Калісь не было крамаў і калі ў гаспадара скончыўся хлеб, тады трэба было ісці і пазычыць ад каго-небудзь. Памятаю як мяне выпраўляла маці да суседа і там важылі хлеб гэтым бязменам. Я прыпомніў сабе аб гэтым як шукаў розных прыладаў для ізбы і паехаў якраз да гэтай хаты. Яны шукалі і знайшлі.***

Акрамя сялянскіх прылад, якіх шмат у ізбе, Анцыпа прыпамінае аб стравах, якія былі асновай у штодзённым меню жыхароў Сакольшчыны. Пры дапамозе жанчын з вёскі, якія яшчэ добра памятаюць рэцэпты, падрыхтаваныя сёння стравы зноў захапляюць смакам. Хлеб, пірог, квашаная капуста, якую кабеты таўклі нагамі — гэтага можна паспрабаваць у Янаўшчыне. Але дзякуючы такім стравам як сушаны сыр ці падляшскі кіндзюк, Анцыпа атрымаў найбольш узнагарод і пахвал.

Ян Анцыпа яшчэ ўчора прымаў вядомага кухара Мацея Новака, якога можна ўбачыць па тэлэвізары ў праграме „Добры дзень, TVN". Кулінарны крытык наведаў Янаўшчыну, каб паспрабаваць мясцовых вырабаў, такіх як кумпяк, сушаны сыр ці пірог. Анцыпа ўзнавіў стравы простага сакольскага селяніна, якія цяпер захапляюць смакам людзей амаль у цэлай Польшчы. Славуты падляшскі кумпяк вырабляецца натуральным метадам, без вэнджання. Гэты спосаб вытворчасці харчавання быў характэрны сакольскім вёскам. Кумпяк націралі часнаком, зеллем, перцам і ядлоўцам. Потым клалі яго ў драўляную бочку ці скрынку з соллю на два месяцы. Пазней ён захоўваўся на гарышчы, у спецыяльных вярбовых кошыках з вечкам. Такі кумпяк даспяваў паміж сушаным зеллем на працягу аднаго года.

Сам вядучы кулінарнай праграмы Мацей Новак быў захоплены смакам і простым спосабам падрыхтоўкі сялянскіх страў. У праграме „Добры дзень, TVN" сказаў: „Цікава, што на Захадзе людзі лічаць такую страву далікатэсам, а тут яна была ежай бедных людзей".

І так адны захапляюцца смакам кумпяка, а іншыя здзіўляюцца назве і яе паходжанню.

***— Часта звярталі мне ўвагу чаму якраз так называю гэтую шынку. Людзі заўсёды выкарыстоўвалі гэтую назву, і я не маю намеру гэтага змяняць.***

Тут трэба адзначыць, што Анцыпа распаўсюджвае не толькі рэгіянальныя стравы, але і культуру беларусаў Сакольшчыны.

Шафа, якая стаіць у ізбе, запоўнена даўняй будзённай і святочнай вопраткай сялян. Цяпер жыхары Янаўшчыны апранаюцца ў гэтыя строі пры нагодзе святаў і абрадаў, якія хоча прыпомніць Анцыпа. Вяселле ў народнай вопратцы і са спевамі на беларускай мове не кожнаму спадабаліся.

***— Для людзей „свая мова" з'яўляецца горшай. Мяне гэта не здзіўляе, таму што проста нам забаранялі гаварыць па-беларуску. Я не знаў польскай мовы пакуль не пайшоў у школу, а там асабліва не можна было карыстацца беларускім языком.***

На Сакольшчыне даўней таксама святкавалі Купалу. У вёсках, дзе не было блізка ракі, людзі галоўным чынам гулялі пры вогнішчах. Анцыпа сарганізаваў Купалле ў Янаўшчыне. На здымках у ізбе можна паглядзець прыгожых жанчын, якія плятуць вянкі.

***— Я асабліва хачу моладзь зацікавіць культурай продкаў.***

Хаця Ян Ацыпа на працягу дзесяцігоддзя здзейсніў амаль усе свае планы адносна падтрымкі спадчыны продкаў, не думае спыняць сваёй дзейнасці. Хоча яшчэ прыпомніць усе прыпеўкі і пагаворкі, якія спадарожнічалі святам і абрадам.

***— Тут людзі яшчэ знаюць гэтую мову, тут яшчэ ўсе так гавораць, толькі ціха.***



■ Ганна КАНДРАЦЮК

# Белы конь і нелегальныя папяроскі (8)

**Няма больш знішчальнай сілы для краіны як надуманая прапаганда пра зладзейства, карупцыю, пакражу дзяржаўнай маёмасці. У цэлым не ідзе пра факты: хто, дзе, калі і колькі ўкраў. Той найважнейшы момант, значыць суд і яго вынікі, звычайна і тактычна не асвятляюцца. Самай істотнай справай тут даказаць народу яго змарнаваныя магчымасці, патраты, выкліканыя той жа карупцыяй і зладзействам. Каб бедны чалавек слухаў і ведаў, хто вінаваты...**

У постсавецкіх краінах, дзе памяць бяды фізічна жывая, багаты заўсёды вінаваты. 11 кастрычніка г.г., у дзень, калі судзілі за дзяржаўныя патраты прынцэсу „Аранжавай рэвалюцыі" Юлію Цімашэнку, на вуліцы Луцка панавала звычайная мітусня і заклапочанасць штодзённымі справамі. Ніхто ўголас не гаварыў пра абарону ідэалаў, якія несла і ажыццяўляла прэм'ер-міністр. Пратэсты ў Кіеве, якія паказалі па ўкраінскім тэлебачанні, замест натхняць верай у выйгрыш, будавалі ўпэўненасць у слушнасць прысуду. Дэманстрантаў паказвалі як звячайны, прагны разбою вэрхал. Разам перадаваўся і той адвечны славянскі недавер усім і ўсяму: калі судзяць, значыць, у нечым вінаватая!

* * *

Спачатку мы ішлі цёмнай асфальтаванай дарогай, асветленай адным месяцам і зоркамі. Дзесьці ад нябачных двароў даносіўся брэх сабак. Мы дзякавалі нябесным сілам за згублены, ягадзінскі хвост, сілу ў нагах ды ў грудзях. Пасля ўжо на галоўнай шашы Ковель — Люблін, паспрабавалі злавіць аўтаспын. Без поспехаў. Шафёры машын і аўтафураў замест спыніцца і паратаваць, дабаўлялі хуткасці. Пры адной аўтастаянцы мы прыкмецілі аўтафуру з эмблемай у выглядзе карычневага мядзведзя. Хоць сам шафёр выглядаў як чалавек, мы стралой мінулі машыну, быццам пабачылі чорта. Так спрацавалі народныя чуткі пра карупцыю і зладзейства, дзе ў якасці прыкладу валыняне ставілі падобныя аўтафуры...

Два кіламетры да пагранзаставы ўрэшце спынілася машына. Праўда, спачатку яна праляцела як прывід, каб пасля заднім ходам, дзесьці з адлегласці дзвесце метраў, зноў вярнуцца і спыніцца з піскам. З прыадкрытых дзвярэй салона бухнула гарэлачным перагарам. Усе пасажыры, іх было больш чым месцаў у машыне, былі апранутыя ў паліцэйскія мундзіры.

— Падвязіце, на мяжу, — мы без упэўненасці прасілі п'яных ахоўнікаў парадку.

— Дзесяць долараў!

— Гэта ж разбой у белы дзень, — паспелі мы сказаць ім....

Нашы бізнесовыя перагаворы і аргументы ад пачатку не мелі сэнсу; у нас не было долараў, а на дварэ стаяла чорная ноч. Мы адчулі вялікую палёгку, калі паліцыянты махнулі на нас рукой і ад'ехалі з піскам у бок мяжы.

* * *

Сем гадоў таму, 6 лютага 2006 года, у дзень калі Юліі Цімашэнцы даверылі будаваць урад (за ёй прагаласавалі амаль усе дэпутаты, апрача камуністаў, разам




атрымала яна 373 галасы на 450 магчымых), у тэлебачанні і народзе таксама гаварылі пра карупцыю, зладзейства. У маіх запісках з таго часу ёсць момант, калі знаёмы кантрабандыст ад Луцка, выстойваючы тры гадзіны на мяжы ў Ягадзіне, крытыкуе прадажнасць каманды Віктара Януковіча, цяперашняга прэзідэнта Украіны.

— Тыя, што былі за Януковічам, ужо павыкідалі старыя білеты, каб зноў бліжэй карыта лыч прыставіць, — хвалюецца Васыль Л. і як сапраўдны рэвалюцыянер дамагаецца справядлівасці: — Юлія зробіць з імі парадак!

З кім прыйдзецца ваяваць пераможцам „Аранжавай рэвалюцыі"? Прыклад сам падсоўваецца пад наш нос. Вось на суседняе поле пад'ехала аўтафура пазначаная малюнкам карычневага мядзведзя. Гэта фірменны знак фінансавага алігарха Мэдвэдчука, павязанага з былым прэзідэнтам Леанідам Кучмам. Вядома пра пяцьсот такіх аўтафур з мядзведзем.

— Цяпер яго пад суд паставім, — радуецца Васыль. Пакаранне? Вядома ў духу аранжавай рэвалюцыі — ніякай крыві. Хай толькі верне незаконныя мільярды! Досыць зладзейства! Досыць карупцыі! Васыль ужо бачыць як інвеставаць Мэдвэдчуковыя мільярды. Ён бы аддаў іх мястэчкам і вёскам, дзе співаецца беспрацоўная моладзь. Тэорыя рэвалюцыйнай справядлівасці яшчэ не ўвайшла ў бізнесовую практыку самога Васыля. Калі перасячэм мяжу, дзядзька раскладзе ў тры кучкі — 3 х 10 долараў — падаркі мытнікам і пагранічнікам....

* * *

Аляксей, бізнесмен з Луцка, прыняў нас у машыну і паабяцаў перакінуць быццам кантрабанду праз мяжу. Украінцы, у адрозненні ад беларусаў, цэняць замежнікаў, якія, едучы ў іх край, вывучылі асновы мовы. У доказ сімпатыі Аляксей уключыў нам кружэлку з расейскімі блатнымі рамансамі пра сентыментальных бандытаў. Час ад часу псаваўся яго дыск, чамусьці заўсёды, калі хлапец выходзіў на двор даць чарговы хабар пагранічнікам. Чамусьці ў той момант, як мантра, паўтараўся брутальна-паэтычны шэдэўр „Белы лебедзь — чорны воран"! Фізічны перасляд сімвалаў і жарты з гэтай прычыны не давалі заснуць, змерзнуць. У прысутнасці луцкага бізнесмена мы адчувалі такія ж спакой і бяспечнасць як у будцы пуцявога абходчыка ў Ягадзіне. Праўда, у машыне Аляксея ўсю аздобу і абярэг выконвала адна фінціклюшка: персідскі боцік вышываны залатой ніткай. Аляксей памяняў запланаваную раней трасу і без ніякіх патрабаванняў, сам па сабе, прывёз нас аж у Люблін. На дварэ ўжо было відна і людна. Ля аўтавакзала мясцовыя жанчынкі прапанавалі набыць у іх папяроскі з начной кантрабанды.

## Дзе купіць „Ніву" ў Беластоку?

У чацвер 2 снежня г.г. я пацікавіўся, дзе ў Беластоку можна купіць наш родны часопіс „Ніву". Шукаў наш тыднёвік перш-наперш у кіёсках „Рух". „Ніва" была ў продажы ў гэтых кіёсках па вуліцы Ліпавай побач прадуктовай крамы „Ратушовай", па вуліцы Браніцкага перад сядзібай павятовага старосты, каля скрыжавання вул. Васількаўскай і ген. Андэрса, па вул. Сянкевіча побач моста на рэчцы Белай ды ў прэсавым салоне „Рух" на Рынку Касцюшкі. З задавальненнем успрыняў я факт, што „Ніву" прадаюць на пошце, між іншым на Галоўным паштамце, які працуе кругласутачна па вул. Варшаўскай, 10 (тут ёсць стэнд „Рух" з прэсай) і ў аддзяленні на Рынку Касцюшкі насупраць ратушы. Наш беларускі тыднёвік мала дзе, але ўсё ж прадаюць у прыватных кіёсках. Ёсць такі кіёск у пачатку вул. Сянкевіча. Працаўніца кіёска „Рух" ля скрыжавання вуліц Васількаўскай і ген. Андэрса парадавала мяне тым, што мае яна пастаянных пакупнікоў „Нівы" і што нашага тыднёвіка з календаром прадае 25 экземпляраў, а ёсць магчымасці прадаць яшчэ больш. **(яц)**

## Ездзяць як хочуць

Шмат пасажыраў карыстаецца перавозамі бельскага ПКС, які цяпер увайшоў у суполку з «Вэолія Транспарт Мазуры» з сядзібай у Кентшыне. Праўда, ад 22 лістапада павялічылі яны кошт білетаў, напрыклад, з Бельска-Падляшскага ў Беласток на 1,50 зл. — з 10 зл. на 11,50. Часта (маю на думцы раз у тыдзень) здараецца так, што аўтобус, які выязджае з Беластока ў Бельск у 15.20 з вакзала, без аб'яўлення прычын увогуле не едзе. У раскладзе ён ёсць, а ў сапраўднасці яго няма. Падарожныя нервуюцца, бо трэба спяшаць на канкрэтную гадзіну, і яшчэ стаіш і мерзнеш на прыпынку. Ніхто з прадстаўнікоў Бельскага аддзела ПКС не ведае, чаму так адбываецца. **Жэня МАРТЫНЮК**

## Уладзімірская ікона

У фондах Музея Варміі і Мазур у Ольштыне знаходзіцца ікона старавераў Уладзімірская Багародзіца. Гэтая ікона лічыцца адной з найбольш шанаваных на Русі. Паводле царкоўнай легенды, напісаў яе сам евангеліст Лука на дошцы стала, за якім сілкавалася Святая Сям'я. У V стагоддзі трапіла яна з Іерусаліма ў Канстанцінопаль, а на Русь у 1130-х гадах як падарунак канстанцінопальскага патрыярха князю Юрыю Даўгарукаму. Спачатку знаходзілася яна ў жаночым манастыры ў Вышгарадзе каля Кіева, а ў 1155 годзе была перавезена ва Уладзімір; адтуль яе назва. У 1395 годзе была яна перанесена ў Маскву і захоўвалася ва Успенскім саборы да 1918 года, да абнаўлення. У 1926, пасля абнаўлення, трапіла яна ў Гістарычны музей, а ў 1930 — у Траццякоўскую галерэю. У верасні 1999 года была яна пераведзена ў Мікалаеўскую царкву ў Талмачах пры той жа галерэі. Ольштынская ікона з'яўляецца вернай копіяй арыгінала. Яна элеўзійскага іканаграфічнага тыпу Спачуваючая, дзе Багародзіца трымае Ісуса на правай руцэ, левай паказваючы Яго, а сам Ён прытуляецца да ейнай шчакі, абнімаючы ручкамі яе шыю.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)

# Зорка
для дзяцей і моладзі

# Белавежа: абуджаныя ручайкі свядомасці



Раней, чым Аня Ляўчук запісалася на беларускую мову, спявала ўжо ў музычным гурце „Ручаёк”. Разам са сваёй мамай. У яе хаце заўсёды любілі беларускія песні, гучала беларуская мова, цікавіліся грамадскімі справамі.

— Мае бацькі, — адзначае Аня, — *налаговыя* слухачы Радыё Рацыя.

Беларускую мову і сваю настаўніцу палюбіла з першага ўрока. Таксама Магдаліна Цыб, раней чым пайшла на беларускую мову, чула яе ў сям'і, на вуліцы, у хаце сяброў. У яе доме перапляталіся белавежскі і падляшскі дыялекты. Бо мама Магды і частка сям'і — родам ад Бельска, з Грыневічаў.

— Мы размаўляем з мамай пра гісторыю нашых вёсак, — заўляе Магда. — Вось нядаўна яна паставіла мне задачу. Мне трэба пазбіраць у інтэрнэце ўсе звесткі пра славутых выхадцаў з Грыневіч. Пра прафесара Ігната Даніловіча (настаўніка Адама Міцкевіча) і царазабойцу Аляксандра Грынявіцкага.

У гімназістак Зосі Замойскай і Асі Чарнуліч таксама сямейныя сувязі з беларускай мовай.

— Я запісалася на ўрокі, бо хачу добра вывучыць беларускую мову, — кажа Ася, — каб самастойна пісаці і чытаць...

Усе дзяўчаты думаюць, каб у будучыні паступіць у Гайнаўскі белліцэй.

— Я таксама выпускніца белліцэя ў Гайнаўцы, — кажа настаўніца Эва Вашчынская.

Там упершыню яна сустрэлася з літаратурнай мовай, бо у той час у школе ў Белавежы не было ўрокаў роднай мовы. Хоць спачатку прыйшлося падганяць сяброў, ліцэй закончыла фіналісткай прадметнага конкурсу па беларускай мове. Пасля беларускую мову, разам з чэшскай, вывучала ва ўніверсітэце.

Прыгожай візітнай картачкай Белавежы з'яўляюцца гурты „Ручаёк” (Ручаёк „а” — для старэйшых, Ручаёк „б” для малодшых), якія дзейнічаюць пры Белавежскім доме культуры. Для Ані Ляўчук цікавы яшчэ архаічны спосаб спявання. З захапленнем успамінае майстар-класы з Аняй Фіёнік, калі на прыродзе спявалі „Рэчаньку”.

Песні, асабліва тыя старыя, нясуць у сабе багатыя веды пра жыццё, пра эмоцыі, пра краявід. Вось у згаданай „Рэчаньцы” ўтрымліваюцца пачуцці закаханых, сугучныя зменлівым настроям ракі. Як не цікава, гэтую агульнавядомую ў Беларусі песню стварылі нашы пушчанскія продкі. Песня „Ой, рэчанька-рэчанька” была знойдзена і запісана славутым Рыгорам Шырмам у міжваенны час (XX ст.) у наваколі мястэчка Нараўка. Як вядома, праз тэрыторыю Нараўчанскай гміны, а яшчэ раней праз Белавежу, плыве рэчка Нараўка.

Каб пагаварыць пра падобныя цікавіны, заўсёды ёсць месца на ўроках беларускай мовы. У Белавежы ад пачатку верасня г.г. пасля доўгага перапынку зноў пачалі вывучаць беларускую мову ў пачатковай школе і гімназіі. Нягледзячы на факт, што заняткі адбываюцца на апошнім уроку, у групах займаецца дваццаць адзін вучань.

Нашым сімпатычным сябрам, іх настаўніцы, згодна з навагоднім звычаем, жадаем незабыўных тэм і сустрэч, поспехаў і развіцця!

**ЗОРКА**

## Калядны конкурс (12)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам зімы. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Які народны інструмент выступае ў беларускай калядцы „Саўка ды Грышка”?**
*а) ражок,*
*б) гармонік,*
*в) дуда.*

**2. Адкуль прыйшоў звычай страіць ёлку на Каляды?**
*а) з Балгарыі,*
*б) з Японіі,*
*в) з Нямеччыны.*

**3. У якім сусветным кінашэдэўры выступае зімовы возерна-лясны краявід ад нашага Семяноўскага вадасховішча?**
*а) у „Шрэку”,*
*б) у „Гары Потэры”,*
*в) у „Хроніках Нарніі”.*

**4. У якім беларускім горадзе ў тралейбусах можна было слухаць песень на словы Максіма Багдановіча (у сувязі з 120-годдзем з дня нараджэння паэта)?**
*а) у Віцебску,*
*б) у Гомелі,*
*в) у Магілёве.*

Адказы дасылайце да 10 студзеня 2012 года (найлепш па электронай пошце на адрас „Зоркі”). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

Рашэнне каляднага конкурсу № 10: Сцябло каласоў, якія ставяць у час Каляд — госцік (в); традыцыйны матыў калядная дэкору на Падляшшы — павук з саломы (б); беларускі літаратурны семінар, які звычайна ў снежні праходзіць на Падляшшы — Бязмежжа (в); нядаўна ў Гайнаўскім беларускім музеі цыкл карцін пад загалоўкам „Вера” паказаў — Мірaслаў Здрайкоўскі (а). Узнагароды — кніжку „Рыцары і дойліды Гародні” і фатаграфію Коры з аўтографам — выйграў **Тамаш Іванюк** з Гайнаўкі. Віншуем! ЗОРКА

## Галерэя ЗОРКІ


Фота Ганны Кандрацюк

1. **Імя і прозвішча:** Лукаш Марчук (Гімназія ў Нараўцы).
2. **Твой любімы прадмет:** беларуская мова, інфарматыка і фізкультура.
3. **У жыцці хачу стаць:** інфарматыкам.
4. **У сяброў цаню:** весялосць, дабрыню, шчырасць.
5. **Не люблю:** маны.
6. **Па-беларуску размаўляю:** з бацькамі.
7. **Кніжка якая мяне захапіла:** «Эрагон» Крыстофера Пааліні.
8. **Падабаецца мне музыка:** дыска-пола.
9. **Твае ўлюбёныя стравы:** дранікі з Масева.
10. **Твой любімы спосаб адпачынку:** люблю праводзіць час ля камп'ютара.
11. **Калі дарасту,хачу жыць:** у Беластоку.

## Вершы Віктара Шведа

### Палавіннае спатканне

Запытала Зося:
— Даражэнькі Ваня,
Як табе ўдалося
З дзяўчынай спатканне?

— Спатканне ўдалося
Мне напалавіну,
Я ставіўся, Зося,
Не прыйшла дзяўчына.

### Музыкальная моладзь

З асветаю лучыцца
Дзяржаўная школа.
А ў школе той вучыцца
Музыкальная моладзь.

І спакойна, без панікі,
Ведаў шмат вывучае
І на нервах настаўнікаў
Пастаянна іграе.

# Найвышэй ацэненая праца XI Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы ў катэгорыі дзяцей

Аляксандра ЯРОЦКАЯ
IV клас, ПШ у Гарадку

## Сабака

У суседа ёсць сабака,
вялікая, кудлатая пакрака.

Толькі спіць і на маіх катоў вурчыць.
А каты яму хвастом махаюць,
зачапаюць і ўцякаюць.
Проста —
сабаку жыццё ўміляюць.

## Вавёрка

У лесе вавёрка крыкнула:
— Ой, якая пацеха, я знайшла арэха!
Прыляцела варона — адкуль уведала?!
І па арэху не засталося ні следу!


Фота Ганны Кандрацюк



## Каты

У мяне тры каты:
чорны, рыжы і пухнаты,
бегаюць ад брамы да хаты.
Выглядаюць мяне са школы,
а кожны кот — вясёлы!

Першы скача на спіну,
другі на галаву,
трэці аціраецца аб ногі,
аж прашу ў таты дапамогі!

Мілыя мае каты!
У іх прыгожыя хвасты.
Я б з катамі ўсё гуляла б,
танцавала б і спявала б!

Работы з катамі шмат:
трэба іх карміць, часаць.
Паеўшы, каты ідуць спаць.
А я не ўмею мышэй лапаць!

# Музыка з кайфам

З Багданавых

Ёсць вялікая імавернасць, што продак Максіма Багдановіча называўся Багдан. У якім пакаленні ці стагоддзі — гэта пытанне да гісторыкаў. Нас больш цікавіць тое, што 9 снежня адзначалася 120-я гадавіна з дня яго нараджэння. Герой „Музыкі з кайфам" можа неадназначна асацыюецца з музыкай, але паэтам характэрнае тое, што раней ці пазней, калі гэта важная паэзія, узнікне мелодыя, якая данясе паэтычныя словы да шырокай аўдыторыі. Так было апошнім часам са славутым ужо „Ня быць скотам" гурту „Ляпіс Трубяцкой". Гэта песня на словы Янкі Купалы, якую распаўсюдзіў Сяргей Міхалок, лідар „Ляпісаў".



Ці ўяўляеце якое шчасце сустрэла жыхароў Магілёва? З нагоды круглай гадавіны з дня нараджэння Максіма Багдановіча песень на словы паэта можна было слухаць у гарадскіх тралейбусах! І вось у гэтым пункце даходзім да сутнасці. Музыкай запаўняліся вершы Багдановіча, калі ён іх толькі пісаў. Патрэба было толькі кампазітара, які гэтую музыку пачуў і пераклаў на сваю мову.

Калі гаварыць пра паэтычныя інспірацыі, то не адзін паэт ці музыкант сцвярджаюць, што музыка — натуральны элемент паэзіі. Не далёка трэба шукаць прыкладаў. Вось паглядскі паэтычна-музычны камбінат, які стварылі Надзея Артымовіч і Алег Кабзар — можна сказаць ужо, што гэты праект вялікамаштабны. Але Максім Багдановіч яшчэ больш маштабны, бо „Пагоню" — „не разбіць, не спыніць, не стрымаць".

Шукайце паэзіі ў музыцы! Гарантую, што ёй шмат. Часам нават не ведаем, што папулярную песню напісаў сто гадоў таму нейкі аўтар. З песняй паэтычныя словы трапляюць да сапраўды шырокай аўдыторыі, бо паэзія рэдка калі дасягае папулярнасці музычных выкананняў.

i_basovka@o2.pl

*Беларуская народная казка (апр. Якуб Колас)*

# Два зайцы

Сядзяць два зайцы ў лесе пад бярэзінай і жаляцца на сваё жыццё.

— Якая наша доля? Кожны час бойся: бойся чалавека, бойся ваўка, сабакі, ліса. Хадзі ды прыслухайся. І хто не крыўдзіць нас, бедных зайцоў? Не толькі чалавек, звер, а нават птушкі і тыя цікуюць на нашае зайцава мяса. А чым можам бараніцца ад нашых непрыяцеляў? Уся надзея на ногі. Выратуюць яны з бяды — шчасце, а не — прапала твая шкура. І зайцы заліліся горкімі слязьмі.

— Ці ж варта жыць пасля гэтага? Хоць бы адна жывёла на свеце баялася нас, зайцоў... Хадзем, брат, ды ўтопімся ў возеры — раз прападаць.

Напдакаліся, надумаліся бедныя зайчыкі і йдуць тапіцца. Возера было блізка. Падышлі зайцы да возера, абняліся, пацалаваліся, развіталіся. Толькі яны бліжэй падышлі да берагу — скок жаба з купіны: спалохалася зайцоў.



— Эх, брат, — кажа адзін зайчык. — Ёсць жа на свеце стварэнне, што і нас баіцца. Ім, відаць, яшчэ горай жывецца, як нам. Можна, значыцца, жыць на свеце.

І пабеглі зайчыкі назад у лес.

# Польска-беларуская крыжаванка № 52

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Nos / Kolęda | | Drabina / Do | | | | | | | |
| | | | Kod / Osa | Du-chowny | Granica | | Bracia / Kanada | Oba-rzanek | |
| | | | Smak / Śnieg | | | | | | |
| | | Święto / Słuch | | | | | | | |
| | Śnie-żynka | | | | | | | | |
| | Lato | | | | | | | | |
| | | | | | | Dwa | | | |
| | Kra | | Róża | | | | | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 48:

Меч, шанс, рата, вока, ежа, шум, крынічка, школа, рот, малы, жаба. Мята, шум, верш, вожык, канон, ара, іл, на, Шчара, струк, Об, Марта.

Узнагароды, CD з беларускай музыкай і каляндарык на 2012 год (з лагатыпам Радыё Рацыя), выйгралі **Юлька Койла, Вераніка Пташынская** з Дубін, **Вікторыя Лукашук, Марціна Пякарская, Магда Галёнка, Габрыся Селівонюк** з Нарвы, **Аляксандра Якімюк, Аляксандра Грыгарук** з Гайнаўкі, **Наталля Васько, Карнэлія Барэчка, Адам Харкевіч, Паўліна Лаўнічук, Наталля Марчук** з Нараўкі, **Паўліна Паплаўская, Дыяна Галёнка, Віялета Дработка, Мартына Швед, Патрыцыя Міхальчук** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Мельнік за трыдзевяць дарог

Зыгмунт Глогер не сходзіў са сваёй воднай дарогі ў Мельніку, не выходзіў ён на бераг таксама і ў Мацькавічах. Вось што ён запісаў пра апошнюю мясцовасць на схіле XIX стагоддзя: „Już po zachodzie słońca, przybyliśmy do wsi Mackiewicz na nocleg. Pod wioską, nad Bugiem, znajdowała się »binduga«, i tam stała na piasku opuszczona, na pół rozwalona, samotna buda, ze starych desek i opołów. Buda z każdego punktu swego wnętrza, przedstawiała w ścianach i dachu widoki na niebo, wioskę, las, a otwartą była na Bug, od strony którego, całej ściany nie posiadała. Z uzbieranych na bindudze butwiejących wiórów, roznieciliśmy niebawem ognisko i uczyniliśmy naradę gastronomiczną, co sobie ugotować na wieczerzę? Mieliśmy rondelek i kawałek jeszcze buljonu oraz szynki, a Prokop kupił nam w Mackiewiczach tuzin jajek i dostał w dodatku do nich pół potężnego bochna chleba. Gospodynie bowiem w tej wiosce miały jeszcze dawny, słowiański wstręt do sprzedaży chleba, wymawiając się »że nie są żydówkami, aby chleb w domu sprzedawały«, więc podróżnemu, który kupił od nich jajka, udzieliły go hojnie, nie chcąc przyjąć zań pieniędzy. Prokop, jako stary żołnierz, wyzyskał chciwie tę gościnność »głupich bab«, jak je nazwał, spodziewając się, że go za to pochwalimy, to też był trochę zdziwiony, gdy został w miejsce pochwały przez nas wygderany".

Звычаі змяняюцца з часам і калі б цяпер хто прынёс бохан дармовага хлеба, верагодна ніхто б яго за гэта не wygderał. Змяняюцца і іншыя паводзіны людзей. Яшчэ па дарозе ў Мацькавічы дагнала мяне легкавушка і яе вадзіцель запрашаў мяне ў салон, прапануючы падвезці аж у Мельнік; на жаль — мог я за гэта адно пажадаць яму шырокай дарогі. Такая ветлівасць аўтамабілістаў цяпер рэдкая, а яшчэ ж у не так адлеглы час, калі нашы людзі ездзілі фурманкамі, запрашэнне пешахода на падсадку было папросту нормай. Тады людзі не замыкаліся ў сваіх чатырох сценах, ды і фурманкі ні акон, ні дзвярэй, ні сцен не мелі.

У Мацькавічах з другой паловы 1990-х гадоў красуецца зараз за паваротам дарогі памаляваная на карычневы колер царкоўка. Цяпер састарэлым вяскоўцам складана дабірацца ў храм, у гэтым выпадку ў прыхадскі Мельнік, тады храм набліжаецца да іх; такія царкоўкі выраслі і ў іншых адлеглых ад прыхадскіх цэнтраў нашых вёсках. Гэтак дзеецца ў наш час, бо паўтысячы гадоў таму, у 1513 годзе, у Мельніку быў узведзены Прачысценскі касцёл спецыяльна для выгады караля Жыгімонта Старога, якому было зацесна і непрэстыжна маліцца разам з простанароддзем у касцёле Божага Цела...

Найбольшае ўражанне ў Мельніку, на жаль — сумнае — выклікалі ў мяне руіны Троіцкага касцёла побач Замкавай гары. Ягоныя пачаткі, як касцёла Божага Цела, сягаюць эпохі вялікага князя Вітаўта. У пачатках XVII стагоддзя мясцовае духавенства нават засумнявалася, каторы касцёл — Прачысценскі ці Божага Цела — лічыць парафіяльным; гэтае пытанне вырашыў сам кароль Уладзіслаў IV у 1630 годзе, называючы парафіяльным касцёл Божага Цела. Незадоўга, аднак, у час шведскага „патопу", у маі 1657 года абодва касцёлы згарэлі. Парафіяльны касцёл побач Замкавай гары вернікі адбудавалі ў 1675 годзе, цяпер ужо пад заступніцтвам Святой Тройцы. Пасля Студзеньскага паўстання Троіцкі касцёл быў закрыты ў 1866 годзе, а ў 1870 усталявалася ў ім праваслаўная Святадухаўская царква. У 1915 годзе храм згарэў. Пасля вайны вярнуўся ён да католікаў, якія нават завязалі камітэт яго адбудовы, але на гэтым планы адбудовы спыніліся, бо ў горадзе (Мельнік страціў гарадское права ў 1934 годзе) быў ужо ўзведзены новы касцёл, Праабражэнскі, якога будова пачалася ў 1913 годзе а завяршылася пасля Першай сусветнай вайны і які служыць мельніцкім вернікам да сёння.





Усходкі на Замкавую гару ў Мельніку


Былая плябанія з XVIII ст. і руіны Троіцкага касцёла

Першая царква ў Мельніку была пабудавана ў глыбокім сярэдневякоўі, пазней сыходзілі і паяўляліся чарговыя пакаленні цэркваў. Цяперашняя Прачысценская царква была пабудавана ў 1823 годзе, перабудаваная ў 1910 годзе. Апрача яе была ў Мельніку яшчэ адна царква, з пачатку XVIII ст., якую ў 1878 годзе перанеслі на Грабарку, дзе яна згарэла дваццаць адзін год таму...

На Замкавай гары, як сама назва падказвае, быў калісь драўляны замак. Спалілі яго шведы ў час „патопу" ў 1656 годзе. У 1865 годзе на вяршыне Замкавай гары была пабудавана капліца Аляксандра Неўскага ў гонар расійскага цара Аляксандра II, знесеная ў 1927 годзе, зараз асталіся ад яе адно фрагменты падмурка.

На месцы колішняга гарадскога рынку цяпер у Мельніку парк, а ў ім валун у памяць Мельніцкай уніі; таксама імем Мельніцкай уніі названы тамашні комплекс школ. Чым жа была тая Мельніцкая ўнія, заключаная ў 1501 годзе? Была гэта дзяржаўная ўнія Кароны з Вялікім Княствам, аднак не надта раўнапраўная, якая на практыцы давала Кароне магчымасць праглынуць Вялікае Княства, у тым ліку адхіліць Ягайлаў род так ад кракаўскага, як і ад віленскага трона і таму яе пастановы не былі адобраны кіруючымі коламі Вільні і яна не была рэалізавана... Глыбока ўздыхнуўшы, у Мельніцкай уніі можна пабачыць шмат паралеляў з сённяшнімі мінска-маскоўскімі саюзнымі танцамі...

Прайшоўшы з чыгуначнай станцыі Сямятычы каля дзесяці кіламетраў, не хацелася мне вяртацца пяшком назад, толькі забрацца на аўтобусе, таму і спяшаўся я, абмяжоўваючы сваё знаёмства з гістарычным мястэчкам да галоўнай яго вуліцы — Берасцейскай. Маю ўвагу звярнуў будынак даўнейшага кіно побач аўтобуснага прыпынку, цяпер з не да пазнакі змененым вонкавым мадэрным аздабленнем. Заглянуў я ўсярэдзіну. Цяпер там Цэнтр мінуўшчыны Мельніцкай зямлі, які працуе з пачатку кастрычніка г.г.; зараз там выстава прац польскага мастака Генрыка Мусяловіча. На вялікі жаль, недахоп часу не дазволіў мне пазнаёміцца з экспазіцыяй.

Вяртаючыся з Мельніка злез я з аўтобуса на той жа чыгуначнай станцыі Сямятычы, з якой раней быў адправіўся ў Мельнік. Паколькі да ад'езду цягніка аставалася мне яшчэ амаль дзве гадзіны часу, рашыў я заглянуць і ў адлеглую адтуль каля сямі кіламетраў Грабарку. Каля другой гадзіны поўдня зусім бязлюдна перад галоўным храмам. Гэта не Спаса, калі Святую гару заліваюць тлумы вернікаў, прыбываючых туды з мэтай прыбрання сваіх душ, адмыўкі з іх набраных за год грахоў, так як набесну гаспадыні адмываюць вокны сваіх дамоў, прыбіраюць смецце з усіх куточкаў кватэры. Цікава толькі, як многа грэшнікаў сумленна выкідае са сваіх душ тое грэшнае смецце, а колькі з іх падмятае тое смецце толькі пад свой духовы палавік...

Пры гэтай нагодзе павалокся я думкай у іншае месца, якое следам Грабаркі таксама мае стаць мэтай масавых тутэйшых паломніцтваў, у г.зв. скіт каля Адрынок, які нядаўна быў байкавата параніштаны г.зв. вандаламі. Не ведаю ўстава гэтага скіта, ведаю адно толькі, што ідэя скітоў выводзіцца ад саракадзённага прабывання Хрыста ў пустыні, здалёк ад мірскога жыцця. Вось гэтае аддаленне адрыноцкага скіта ад людской марнасці выклікае ў мяне крыху сумненняў. Бо ці частае зглядданне туды тлумаў народу ці тэлебачання не прыводзіць на думку слаўтых паказух пад агульнай назвай Big Brother? І ці той вандалізм не прыводзіць біблейскага ўспаміну павучальнай расправы з Садомам? Калі глянуць шырэй па нашых тутэйшых вёсках, можна пабачыць мноства пражываючых адзінока — у посце і пакутах — пажылых людзей. І не пад пазалочанымі купаламі яны жывуць, не гуляюць па адмысловых кладках... Агульная тутэйшая вёска здаецца быць такім вялікім манастыром, якога паслушніцы каратаюць час адно ў прысутнасці Усявышняга. У Грабарцы пацешыла мяне ціш, узрадавала тое, што ніхто там не чакаў паказацца вонкаваму воку і майго зроку таксама не адводзіў у грэшны бок.

Падаўся я на чыгуначны прыпынак Сычы, на поезд, які меў адтуль ад'ехаць у Чаромху дзве мінуты да гадзіны трэцяй. Прыпынак Сычы аднаўлены, аднак толькі ў маштабе заяздждаючых туды цяперашніх цягнікоў, значыць пакладзена новая брусчатка адно на частцы перона, меншай за палову яго, а апошняя частка астаецца помнікам зарастаючага пустазеллем мінулага. Прыпынак Сычы гэта таксама свайго роду бязлюдны скіт, якому дахам у маё там чаканне была сырая хмара. Чакаў-чакаў я, а калі спазненне поезда дайшло да дваццаці мінут рашыў я памяняць празябанне на сырой прыродзе на абагравальную хаду ў адлеглыя звыш дзесяці кіламетраў Сямятычы. Начная хада па цяперашніх асфальтоўках гэта сур'ёзнае выпрабаванне, гэта змаганне не толькі з грунтам, але і з аўтамабільнымі фарамі, якімі вадзіцелі шчодра асляпляюць зрок пешаходаў; ведаюць яны адно, каб законна не дакучаць роўнаму сабе аўтамабільнаму саслоўю. Аднак удалося мне зайсці ў горад не траўміраваўшы ног, пра след па сабе ў выглядзе прыдарожнага крыжыка не згадваючы.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Не меў наўме голых баб

**Ілюстратарам сёлетняга святочнага календара ў „Ніве”, апрацаванага ў стылі макатак сустраканых яшчэ дасюль у беларускіх кухнях, галоўным чынам вясковых хат, з'яўляецца народжаны ў Бельску-Падляшскім мастак Міраслаў Здрайкоўскі. І гэта ён быў госцем апошняй сёлетняй сустрэчы дыскусійнага клуба Аб'яднання бацькоў дзяцей і моладзі вывучаючых беларускую мову „АБ-БА” (госць з'яўляецца аўтарам лагатыпа гэтага згуртавання), якая амаль тыдзень да каталіцкіх Каляд адбылася ў Пачатковай школы № 4 у Беластоку.**

Мастак (1972 г. нар.) у апошні час паказваў свае працы ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы на экспазіцыі пад неадназначна гучаўшым загалоўкам „Вера”. Быў ён студэнтам факультэта праектавання выстаў і рэкламы Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў у Мінску. З'яўляецца таксама выпускніком пасляліцэйскай іканапіснай студыі ў Бельску-Падляшскім. Як прыгадаў тэлевізійны дакументаліст Мікола Ваўранюк, які звычайна вядзе сустрэчы дыскусійнага клуба аб'яднання „АБ-БА”, ужо ў бельскім белліцэі Міраслаў Здрайкоўскі выяўляў не толькі мастацкі, але і тэатральны талент :

— Малюе і рысуе ад сэрца матывы з дзяцінства, але і тыя, якія пазней паяўляліся ў яго жыцці.

Сам мастак, які цяпер пражывае ў Беластоку, адзначаў:

— Я быў бы найбольш шчаслівым чалавекам, калі б не мусіў за хлебам ці працай выязджаць з Беласточчыны, дзе вырас.

Паўжартам:

— Часта шкадую, што я не музыка, не спяваю, не іграю, бо тое, што гучна заспяванае, зайгранае — даходзіць да людзей хутчэй.

Не скрываў, што яму бліжэйшы рэалістычны малюнак, асабліва выявы прод-



Злева: Мікола Ваўранюк, Міраслаў Здрайкоўскі

каў, дзяцей ці вясковых хат:

— Не ў галаве мне „Чорны квадрат” [спасылка на вядучую карціну Казіміра Малевіча, аднаго з творцаў авангарда ў мастацтве — М. Х.], ці нават голыя бабы, а трактар ці плот.

Разважаючы аб сувязях мастацтва з сямейнымі і вясковымі каранямі, а таксама аб сямейнай гісторыі, што накладваецца на яго бачанне свету, рытарычна пытаўся:

— А хто ў вёсцы думае аб мастацтве? Калі ўжо, дык па вёсках больш займаюцца пісаннем. Мастацтва, проста, займае больш часу. Вясковыя людзі перакладваюць мастацтва на тое, колькі з гэтага можна мець. Калі ўжо хочуць, каб іх дзеці выехалі ў горад, дык не для таго, каб сталі артыстамі, а, скажам, лекарамі.

Успомніў пра дзядулю, які быў мастаком-рамеснікам і аб продку, якога разам з іншымі 142 жыхарамі Райска расстралялі нямецкія акупанты (Міраслаў Здрайкоўскі з'яўляецца м.інш. аўтарам аранжыроўкі мемарыяльнага пакоя ў Райску; таксама апрацаваў інтэр'ер класаў у бельскім белліцэі).

Гады таму Міраслаў Здрайкоўскі разам з некалькімі іншымі выпускнікамі беларускай мастацкай вучэльні родам з Польшчы, сарганізавалі ў Ваяводскім асяродку анімацыі культуры супольную выставу. Здавалася тады, што вылучыцца з іх нейкая пастаянная мастацкая група. На жаль.

— Мы думалі, што можа будзе гэта нават аб'яднанне беларускіх мастакоў у Польшчы. Не атрымалася, бо ўсе былі халасцякамі, — жартаваў.

Адзначыў таксама:

— Я неахвотна прадаю або аддаю карціны, бо гэта мае дзеці. Мастацтва гэта форма выказвання. Гэта тое, што я хачу сказаць людзям. Абстрактныя сродкі выказвання — гэта не маё. Маю шмат што сказаць, чаго ў абстракцыі не выкажу. Вельмі люблю плакат, асабліва польскі, дзе ёсць ідэя, а не толькі прыгажосць. Вельмі мне падабаецца лаканічны жывапіс, амаль графічны, такі, як першыя працы Лявона Тарасэвіча.

Падкрэсліў:

— Гэта для мяне нейкая свабода, што магу з сынамі дома паразмаўляць па-беларуску.

Спасылаючыся да студэнцкага часу ў Мінску ў палове дзевяностых гадоў, не скрываў:

— Я ў жыцці маю шчасце, асабліва на прафесійным шляху.

Як заявіў, на мінскую вучэльню паступіў дзякуючы інтэрвенцыі ў адным з міністэрстваў Яна Мордана, які ў час яго ўступных экзаменаў прымаў удзел у беларускай сталіцы ў з'ездзе беларусаў свету „Бацькаўшчына”. Без гэтай інтэрвенцыі не мог бы здаваць экзаменаў, бо на вучэльню не дайшлі яго дакументы з Польшчы:

— Пасля экзаменацыйная камісія сустракала мяне амаль з кветкамі. Я думаў, што мяне зноў адправяць, бо не меў з сабою патрабаванага слоіка на ваду ды ўбег на экзамен з бутэлькай. Памятаю, экзаменатары сказалі мне, убачыўшы тую бутэльку: „Тут нельга так, як у Польшчы, так свабодна”. А ў Акадэміі мастацтваў у Мінску штудзіраваў я пяць гадоў.

Дыпломнай працай Міраслава Здрайкоўскага быў цыкл плакатаў этнаграфічных экспазіцый Беларускага музея ў Гайнаўцы. У час сустрэчы Барбара Пякарская са згуртавання „АБ-БА” пыталася ў мастака, адкуль у ім такія залежы дабрыні ў адносінах да ўсіх акаляючых яго людзей. Герой сустрэчы з прыроднай сціпласцю пазбег адказу.

**Перад падарожжам у Беларусь спевакі з калектываў „Цаглінкі” са Старога Ляўкова і „Устроне” са Скернявіцаў звярнуліся да мяне з пытаннем ці ўдалай будзе паездка па Гродзеншчыне. Я адрэагаваў станоўча: „Усё будзе добра, не хвалюйцеся!”.**



Тэкст і фота Віктара БУРЫ

# Паездка па Гродзеншчыне

На граніцы 25 лістапада пагранічнікі і мытнікі аформілі нас хутка, можна сказаць „пад казырок”, ды пажадалі прыемнай пабыўкі. Ранішняе Гродна сустрэла нас пераменным, то пахмурным, то сонечным надвор'ем. Пасля закватаравання ў двух студэнцкіх інтэрнатах узялі нас пад апякунскія крылы гродзенскія культработнікі і ў першую чаргу завялі нас у рэстаран на сняданак. Пасля, па графіку, паехалі мы ў аграгарадок Адэльск, дзе пазнаёміліся з архітэктурай мястэчка, наведалі Вазнясенскі касцёл. Ксёндз Юзэф Макарчык (ураджэнец нашых Лявонавіч, што каля Ялоўкі) дэталёва распавёў нам аб гісторыі касцёла, аб жыхарах Адэльска, аб узорным сужыцці мясцовых католікаў і праваслаўных. Святар быў вельмі рады сустрэчы з намі, распытваў пра знаёмых яму людзей з былых затопленых вёсак Міхалоўскай гміны. Потым падаліся мы ў Сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў „Пагранічны”, пабачылі сховішча для агароднiны, пачаставаліся смакавітымі пладамі. Чарговымі аб'ектамі на шляху нашай пазнавальнай вандроўкі былі Вучэбна-педагагічны комплекс ясглі — сад — сярэдняя школа ды Цэнтр культуры і народнай творчасці. У апошнім адбылася прэзентацыя драўляных музычных інструментаў, якія выконвае майстар Мар'ян Скраблевіч. А пасля ў Адэльскім ЦКіНТ адбыўся супольны канцэрт. А калі графік першага дня быў поўнасцю выкананы, вярнуліся мы ў Гродна на начлег.

На другі дзень, 26 лістапада, наш маршрут завёў нас у Шчучынскі раён. На мяжы раёна хлебам ды соллю сустрэлі нас прадстаўнікі мясцовых улад у суправаджэнні калектываў „Промень” і „Медуніца”. На Шчучыншчыне мы наведалі Васілішкаўскі дом культуры і адпачынку, падаліся ў экскурсію па ваколіцы вёскі Старыя Васілішкі, наведалі касцёл св. апосталаў Пятра і Паўла, клуб-музей у доме, у якім нарадзіўся Чэслаў Немэн. Вечарам у доме культуры і адпачынку ў Васілішках адбыўся канцэрт. З польскім „Устронем” і беларускімі „Цаглінкамі” пазнаёміліся хор польскай песні „Промень” і ансамбль беларускай песні „Медуніца”. Абодва калектывы носяць званне народных і працуюць пры Шчучынскім раённым доме культуры. Сумесны канцэрт пакінуў на слухачах незабыўнае ўражанне, стварыў атмасферу міжэтнічнай салідарнасці. Незабыўнай была сустрэча скернявічан з землякамі, калі тыя плакалі, слухаючы польскія песні і гледзячы на танцы ў выкананні калектыву „Устроне”. „Цаглінкі” таксама класна паказалі сваё майстэрства. Доказам гэтаму была жывая рэакцыя публікі, якая не шкадавала бурных апладысментаў і часта выклікала на біс. На сцэне і ў глядзельнай зале сустрэліся людзі блізкія па роду, па духу, па мэце і ладзе жыцця. Нельга правесці граніцу праз сэрцы двух брацкіх народаў. Калі людзі жывуць у згодзе, то душа спявае.

Апошні дзень нашай паездкі, 27 лістапада, быў прызначаны на экскурсію па старажытным, каралеўскім горадзе Гродне. Нас захапілі старажытныя цэрквы і касцёлы, музеі, масты, паркі, а таксама новыя кварталы. Пасля паабедняга пачастунку мы развіталіся з гасціннымі сябрамі. Трэба адзначыць, што ўвесь час спадарожнічала нам тэлебрыгада з Беларусь-ТБ, з праграмы „Карані”.

Шляхам мастацкіх сустрэч раскрываецца перспектыва шырэйшага супрацоўніцтва. Трэба сказаць, што зацікаўленасць супрацоўніцтвам праяўлялася з абодвух бакоў. Шмат канкрэтных ініцыятыў было прапанаваных для рэалізацыі ў рамках культурнага абмену.

Я вялікі аптыміст развіцця гэтага напрамку ўзаемаадносін. Прамыя сувязі паміж гарадамі, рэгіёнамі вельмі запатрабаваныя. Яны дадаюць энергіі і актыўнасці. Паездка „Устроня” і „Цаглінак” была рэалізавана пры садзейнічанні Упраўлення культуры Гродзенскага абкама, Васілішкаўскага цэнтра культуры і адпачынку Шчучынскана раёна, Адэльскага цэнтра культуры і народнай творчасці і іншых устаноў ды зычлівых людзей.

Тры дні праляцелі хутка. Яны былі насычаны цікавымі падарожжамі і экскурсіямі. Нашы сябры не шкадавлі часу і сіл, каб паказаць нам самае цікавае. За час вандроўкі мы зразумелі, — кажуць члены калектываў „Устроне” і „Цаглінкі”, — што Беларусь — прыгожы і гасцінныя край, а галоўнае яе багацце — людзі.

# 2011 год ч.II

Васіль САКОЎСКІ

*Найбліжэйшымі нашымі ўсходнімі суседзямі з'яўляюцца Літва, Беларусь, Украіна і часткова Расія. Пра Літву ў Польшчы ў 2011 годзе можна было пачуць больш кепскага, чым добрага. Гэтыя ўпартыя літоўцы ніяк не хочуць згадзіцца пісаць прозвішчы літоўскіх палякаў паводле польскага гучання і польскіх граматычных правіл і надалей іх пішуць на літоўскі смешны манер. А таксама абмяжоўваюць польскае школьніцтва ў Літве. Пры гэтай нагодзе часта было можна пачуць злыя папрокі і ў наш беларускі бок. Маўляў, гляньце як у Польшчы проста працвітаюць беларускія школы, а там проста нішчаць польскія школы. Пры гэтым публічна выражаліся шчырыя пажаданні, што можа нарэшце і нашы ўлады пойдуць па розум у галаву і пачнуць так паступаць з беларускімі школамі ў Польшчы, як літоўскія ўлады з польскімі школамі. І, канешне ж, нам, польскім беларусам, было вельмі крыўдна слухаць такое. Мы, лаяльныя і паслухмяныя грамадзяне Польшчы, на такое не заслужылі, а тыя, якія выражаюць пра беларускае школьніцтва ў Польшчы такія погляды, проста не ведаюць аб чым гавораць.*

*Хачу выразна тут сказаць нашым нядобразычліўцам, што ў Польшчы беларускіх школ няма. Ёсць толькі школы з дадатковым навучаннем беларускай мовы. Гэта стопрацэнтныя польскія школы з дадатковым навучаннем беларускай мовы і літаратуры ды артыстычныя часткі ў іх узбагачаныя нацыянальнымі і мясцовымі традыцыйнымі элементамі. Так што пры стопрацэнтнай польскасці ў гэтых школах набярэцца яшчэ не больш дзесяці працэнтаў і беларускасці. Рэлігія ў іх выкладаецца і праваслаўная, і каталіцкая, да выбару. Вянчае рэлігійнае пытанне ікона і крыж раўнапраўна і дружалюбна завешаныя побач у адпаведным месцы. А ўжо наяўнасць беларускага духу ў іх залежыць у асноўным ад бацькоў, настаўнікаў і часу. Раней, напрыклад, было больш гэтага духу, а цяпер, на жаль, яго штораз менш. Раней на перапынках большасць гаварыла па-свойму, а цяпер наадварот. І нічога з гэтым не зробіш — асіміляцыя...*

*Прыпамінаю, што Польшча ўжо добрых некалькі гадоў з'яўляецца членам Еўрасаюза, які моцна спрыяе нацыянальным і этнічным меншасцям і, канешне ж, іх нацыянальнаму школьніцтву. Паводле еўрапейскіх стандартаў у школах нацыянальных меншасцей нават да шасцідзесяці працэнтаў урокаў можа выкладацца на іх нацыянальных мовах...*

*Польскія школы ў Літве з'яўляюцца тыпова польскімі школамі. У іх дзевяноста працэнтаў урокаў выкладаецца на польскай мове і паводле польскіх праграм. А дзяржаўная літоўская мова выкладаецца і вымагаецца ў іх у меншым аб'ёме ведаў, чым у літоўскіх школах. Што ў нашых польска-беларускіх школах з'яўляецца (і слушна) проста немагчымым...*



*Помніцца мне, што была калісьці прапанова з нашага боку, каб у нашых так званых беларускіх ліцэях дапусціць невялікую паблажку на пісьмовых матуральных экзаменах з польскай мовы. Матуральныя экзамены ў нашых ліцэях распачыналіся тады абавязковымі пісьмовымі экзаменамі з польскай і беларускай моў і пісьмовага экзамена з выбранага прадмета, а ва ўсіх іншых школах — толькі з польскай мовы і аднаго выбранага прадмета. Не здадзены пісьмовы экзамен з польскай мовы быў раўназначны не здадзенай матуры. Паўтарыць такія экзамены можна было праз год. Калі ж хто не здаў пісьмовага экзамену з выбранага прадмета (што, канешне, магло здарыцца і добраму абітурыенту), а польскую мову здаў ён на чатыры ці пяць, ён меў яшчэ шанц быць дапушчаным да пераздачы экзамену („poprawkowy" або „uzupełniający"). Вось менавіта і прапанавалася, каб гэты прынцып быў прыменены і да польскай мовы ў нашых ліцэях, у якіх апрача дзяржаўнай польскай мовы здавалася і родная беларуская мова, і дзе здаваліся пісьмовыя экзамены не з двух, а з трох прадметаў. Але гэтая ідэя не прайшла. Вось таму параўноўваць польскія школы ў Літве і так званыя беларускія ў Польшчы няправільна...*

*На заканчэнне хачу сказаць, што мы, польскія беларусы, спачуваем літоўскім палякам і зайздросцім ім. Спачуваем, бо дасканала ведаем як жывецца меншасці сярод большасці. А зайздросцім, бо за вамі стаіць уся Польшча: цікавіцца вамі, усялякімі спосабамі спрые і дапамагае вам. Польшча шануе і ганарыцца сваёй польскасцю ў сябе дома і ў замежных палоніях. А скажыце хто, апрача нас саміх, шануе і ганарыцца нашай беларускасцю?! Беларускім уладам па барабану яна ў сябе дома і тым больш за граніцай Беларусі. У сэнсе беларускай нацыянальнасці яны (беларускія ўлады) знаходзяцца яшчэ на этапе: „Откуда, мол, и что это за географические новости?" — гаворачы словамі Уладзіміра Маякоўскага...* ***(працяг будзе)***




Гісторыя — не толькі навука. Гісторыя праходзіць праз жыцці людзей, адбіваецца на іх усведамленні, робіць іх тым ці іншым чынам далучанымі да значных падзей, што адбываюцца ў грамадстве. Акрамя таго, на працягу ўсяго свайго жыцця людзі з'яўляюцца як асноўнымі дзеючымі персанажамі гісторыі, так і проста сведкамі. Часам паказанні жывых сведак даюць магчымасць больш аб'ектыўна ўявіць, што адбывалася калісьці, чым стосы кніг і падручнікаў па гісторыі.

Так званая вусная гісторыя — гэта тое, што ўдалося сабраць навукоўцам ад сведак гістарычных падзей і зафіксаваць у сваіх навуковых працах. Дзякуючы інтэрнэту, цяпер пазнаёміцца з такімі сведчаннямі можа кожны жадаючы.

Адным з прыкладаў збору матэрыялаў вуснай гісторыі з'яўляецца сайт, што сёлета з'явіўся ў Байнэце. „Беларускі архіў вуснай гісторыі" месціцца па адрасе **www.nashapamiac.org.** Згодна інфармацыі, пададзенай на першай старонцы віртуальнага архіва, ён „мае на мэце захаванне ўспамінаў сведак пра найноўшы (перыяд БССР і Рэспублікі Беларусь) час беларускай гісторыі, як формы прадстаўлення гістарычнай памяці рэгіёна". „Архіў" прадстаўлены ў выглядзе он-лайн партала для даследчыкаў, аматараў гісторыі XX стагоддзя, адукатараў і іншых зацікаўленых „незалежна ад месца пражывання".

Першая старонка партала выглядае як мноства інтэрнэт-сайтаў разнастайных музеяў і старажытных калекцый. Тут пераважае карычневы колер, месціцца даўнія чорна-белыя фотаздымкі.

Выйсці на рубрыкі сайта знаходзяцца як уверсе, так і ўнізе выяўлення. На самой справе гэта дубляж, сэнс якога не зусім зразумелы. Разам з тым гэта не змяншае значнасці сайта, які, як гаворыцца на старонцы „Аб праекце", з'яўляецца сховішчам „сабраных рознымі даследчыкамі калекцый вусных крыніцаў (інтэрв'ю), дзе ствараюцца ўмовы доступу да іх, як для навукоўцаў, так і для людзей, цікаўных да „жывой гісторыі". У данай рубрыцы некалькі падрубрык, адкуль мы можам даведацца аб камандзе праекта, яе партнёрах і кансультантах.

Праўда, калі нехта думае, што для знаёмства са зместам віртуальнага архіва дастаткова толькі зайсці на сайт, то ён памыляецца. Уладальнікі „Беларускага архіва вуснай гісторыі" патрабуюць ад наведвальнікаў рэгістрацыі і выкарыстання матэрыялаў толькі для навуковых ці адукацыйных мэтаў. Менавіта аб гэтым гаворыцца ў падрубрыцы „Умовы карыстання" ў рубрыцы „Архіў". Такія варункі створаны, па ўсім відаць, з нагоды абароны аўтарскіх правоў.

Каб праглядзець калекцыі віртуальнага архіва трэба застацца на старонцы „Архіў", але перайсці ў падрубрыку „Калекцыі". Там прадстаўлены матэрыялы, сабраныя сямю даследчыкамі. Пазнаёміцца з гістарычнымі дакументамі немагчыма без папярэдняй рэгістрацыі.

Ёсць на сайце старонка „Падзеі". Пакуль там няма аніякай інфармацыі. Верагодна, старонка была створана для публікацыі разнастайных навін, але аўтары партала яшчэ не знайшлі нічога вартага для размяшчэння на ёй.

Навучыцца карыстанню з „Беларускага архіва вуснай гісторыі" можна, калі зойдзеш на старонку „Частыя пытанні". Акрамя іншага, там распавядаецца як можна далучыцца да працы збіральнікаў вусных гісторый і атрымаць матэрыялы „архіва" для сваёй навуковай дзейнасці.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Скарбы Беларусі

# Палацы на Зяльвянцы

Землі колішняга Ваўкавыскага павета заўсёды былі досыць урадлівымі, таму на гэтай тэрыторыі заможныя людзі будавалі сабе багатыя сядзібы і нават сапраўдныя палацы. Гутарка тут пойдзе пра два сядзібныя комплексы, якія збольшага зберагліся да нашага часу — палацы ў Падароску і Красках, назвы якіх гавораць самі па сабе.

Мясцовасць Падароск пры дарозе, якая вядзе з Ваўкавыска да Ружанаў, вядомая па гістарычных крыніцах з пачатку XVI стагоддзя як уласнасць Мацея Клочкі, пазней належала Дольскім, Вішнявецкім, Грабоўскім. Фальварак у Падароску вядомы з другой паловы XVIII стагоддзя. Ад пачатку належаў ён роду Чачотаў, якія мелі герб „Астоя". Ад Чачотаў праз Пухальскіх Падароск перайшоў да роду Бохвіцаў. Маёнткам значны час валодаў Раман Бохвіц, сын вядомага філосафа, ураджэнца мястэчка Мір, Фларыяна Бохвіца. Бохвіц з мэтай перабудовы запрасіў з Вільні архітэктара Лубу, які і стварыў той комплекс, што ў асноўных рысах захаваўся да сённяшняга. Лёс Рамана Ота Бохвіца быў надзвычай трагічны — ён памёр пасля арышту саветамі ў 1939 г., хутчэй усяго закатаваны энкавэдыстамі. Значны час у сядзібе месцілася кантора мясцовага саўгаса, зараз жа яна нікога не цікавіць і паступова разбураецца.

Сядзіба стаіць на беразе рэчкі Зяльвянкі. Дом з мезанінам, збудаваны ў эклектычным стылі з элементамі класіцызму, досыць абшарпаны, без дзвярэй і вокнаў, на першым паверсе, яны забітыя дошкамі. Захаваліся таксама гаспадарчыя пабудовы, адметная ўязная брама з чырвонай цэглы, комплекс абкружаны мурам, які пашкоджаны ў многіх месцах, але збольшага цэлы. З-за дома вачам адкрываецца маляўнічая панарама ўсяго мястэчка з царквой і касцёлам.

Непадалёк ад Падароска — Краскі. Маёнтак у Красках у першай палове XIX стагоддзя належаў Булгарынам, а пазней перайшоў да роду Сегеняў, якія валодалі ім да 1939 г. Першаснай была драўляная забудова 1839 г., у 1905 г. быў узведзены мураваны двухпавярховы палац. Палац гэты мае дзве вежы (адна цыліндрычная, а другая — квадратнай формы) і выглядае на сапраўдны неагатычны замак. Асаблівую загадкавасць і прыгажосць пабудовам надае вялізны парк, агульная плошча парку зараз каля 3 га, а раней разам з былой тэрыторыяй маёнтка ён займаў больш 50 га. У парку расце шмат экзотаў, рэдкіх парод дрэў, некалі, у дарэвалюцыйны час іх сюды прывёз Зыгмунт Сегень. Але з часам парк здзічэў. Памятаю, як першы раз трапіў у Краскі, быў зачараваны мясцовай прыродай — таўшчэзнымі дрэвамі, кладачкай праз плытkую і прыгожую вузкую рэчачку Зяльвянку, якая працякае побач.

Пасля II сусветнай вайны ў палацы месціўся шпіталь для хворых на сухоты, лячэбна-працоўны санаторый для алкаголікаў, пазней будынкі пуставалі. А з нядаўняга часу трапіць на тэрыторыю парку і сядзібнага ансамбля досыць праблематычна. У сядзібы з'явіўся новы ўладальнік — яе купіў расейскі прадпрымальнік усяго за 100 тысяч долараў. Гэта ці не першы выпадак прыватызацыі гістарычнага помніка. Тэрыторыя зараз ахоўваецца і далёка не кожны зможа сюды патрапіць. Мясцовыя людзі адгукаюцца пра новага гаспадара станоўча, некаторыя атрымалі нават працу. Ці зможа расейскі бізнесовец, радзіма якога за 3 тысячы кіламетраў ад Беларусі, адбудаваць былую сядзібу — пакажа бліжэйшы час. Сённяшняй жа дзяржаве мусіць быць сорамна: яна будуе даражэзныя лёдавыя палацы, але ёй мала справы да палацаў гістарычна-архітэктурнай спадчыны.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**





„Родына” з Дубяжына



Дуэт з Тапаркоў

# У Палічнай (3)

Тэкст і фота **Уладзіміра СІДАРУКА**

У Палічну заехалі мы без дзесяці мінут чатыры. Адправіўшы дачку дахаты, падаўся я ў святліцу. Побач будынка сустрэў кучку мужчын. Пазнаю знаёмых: Валодзю Саевіча, Мікалая Вілюка, Віктара Сцепанюка... Гэта сардэчныя калегі, з якімі я шмат гадоў працаваў на чыгунцы. З Валодзем Саевічам, напрыклад, зжыліся быццам браты. Ён працаваў кандуктарам на чаромхаўскай станцыі, а я — кладаўшчыком. Разам падарожнічалі за ўсходнюю мяжу — у Высокае ды Брэст. Супольна раздзялялі радасці і смуткі. Пасля таго як калегу перавялі на працу ў Беласток, нашы кантакты абарваліся. Зараз Валодзя працуе кандуктарам у прадпрыемстве „Інтэрсіты”. Купіў кватэру ў Беластоку, перасяліўся. У вольны час прыязджае ў Палічну наведаць старэнькую матулю і памагчы ёй у хатняй гаспадарцы. Вельмі рады былі мы сустрэчы. Абмяняўшыся навінкамі, падаліся мы разам у залу. Набліжаўся час канцэрта.

Глядзельная зала была запоўнена публікай. У першым радочку сядзелі госці: бурмістр Кляшчэляў Ірэна Негярэвіч, дырэктар Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы Тамаш Ціханюк з жонкаю, дырэктар Гайнаўскага асяродка культуры Лявон Алексяюк, радная гміны Аліна Зазулінская ды вясковая солтыс Альжбета Каравай.



Трыо з Дабрывады



У мастацкай частцы выступілі трыо з Дабрывады (Ніна Яўдасюк, Валянціна Клімовіч і Бася Якімюк), вакальны калектыў „Родына” з Дубяжына (дзесяць чалавек) і дуэт Валя Марціновіч з Краснага Сяла і Віталь Саха з Тапаркоў. Гурты двойчы выходзілі на сцэну. За першым разам выканалі чатыры песні, а ў другім туры чарговасць выступлення паўтаралася, адно з іншымі песнямі. Рэпертуар складаўся з мясцовага фальклору добра вядомага публіцы. Неаднойчы самадзейнікам падспеўвалі глядачы з залы. Канцэрт пачаўся з выступлення дабрывадскіх жанчын. Пачалі песняй „Любів я дивчыну”, затым „Стоіт гора высокая” ў сольным выкананні Валянціны Клімовіч, „Соловэйку канарэйку” ды іншыя. Дабрывадскае трыо на сцэне заступіла „Родына” з Дубяжына. У выкананні гэтай групы прагучэлі „Зайшоў місяць за горою”, „А ў городы вэрба росла”, „Світі місячэньку”, а закончылі песняй „Захацела стара баба”. Гэтая вясёлая, гумарыстычная песня выклікала ў зале бурныя апладысменты. Зрэшты, пасля кожнага нумару такія ж воплескі доўга не сціхалі. Дубяжынцам акампанаваў гарманіст Пётр Асташэўскі з Орлі, мастацкі кіраўнік гурту „Ранок”. Апошнім выступіў дуэт з Тапаркоў. Выступ пачаўся песняй „Гіля, гіля сівые гусі”, пасля заспявалі „Ой, закувала сіва зязюля”, „Я ў суботу родылася”, а закончылі „Бувайтэ здоровы”. Канцэрт доўжыўся больш за дзве гадзіны. Сюрпрызам імпрэзы быў конкурс „Ці ведаеш сваю гміну”, які паспяхова вялі бурмістр Кляшчэляў Ірэна Негярэвіч і радная Аліна Зазулінская. Чатырох удзельнікаў адказвала на пытанні, за што атрымалі падарункі. Пасля мастацкай часткі арганізатары запрасілі самадзейнікаў да супольнага пачастунку. Сталы былі багата застаўлены ежай і напіткамі. Гэта мне напамінала даўнейшую традыцыю запустаў, якія арганізавалі моладзь і старэйшыя жыхары вёскі. У зале царыла музыка і песня, ды сапраўдная сямейная атмасфера. Запяваламі аказаліся дубяжынскія госці, а бадзёра падыгрываў Пятро Асташэўскі. Ды і апошнія госці застолля не ленаваліся. Вельмі добрымі танцорамі аказаліся Віталь Саха і Альжбета Каравай. Апошняя нават у час ад'езду гасцей дадому два разы „парывала” да танца свайго партнёра Віталіка з Тапаркоў.

Калі госці ад'ехалі, а разам з імі і музыкант, мясцовыя гулялі ў такт дыска-польнай музыкі. Палічанскае мерапрыемства, на маю думку, лічу ўдалай імпрэзай. Сведчыць аб тым факт, што дырэктар Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы Тамаш Ціханюк абяцаў арганізаваць у Палічнай у новым сезоне беларускі фэст „І тут жывуць людзі”. Спадзяемся, што слова стрымае.

**PS.** У пачатках снежня радная з Палічнай Аліна Зазулінская пазваніла і заявіла, што Таварыства „Стакротка” разам з Таварыствам „Паштоўка” ўдзельнічалі ў Рэгіянальным грантавым конкурсе Польска-Амерыканскага фонду свабоды „Раўнаць шанцы 2011” і за працу „Сямейныя сувязі запісаны ў карціне” атрымалі шэсць тысяч злотых.

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — пагаворку.

1. конскі злакавы ласунак = 14 _ 13 _ 15 _ 12 _;
2. адзіночны орган зроку = 16 _ 17 _ 7 _ 8 _;
3. уліваецца ў Амур у Благавешчанску = 9 _ 21 _ 5 _;
4. метка, жэст = 1 _ 10 _ 11 _ 6 _;
5. сумесь тлушчу з лекавымі сродкамі = 3 _ 4 _ 18 _ 19 _;
6. трэцяя нота = 20 _ 2 _.

**(ш)**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| | | | | 5 | 6 |
| | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 47 нумара**

Кроў, верх, Калуга, габой, Камю, зрыў, зямля, нафта, ява, звер, расказ, вяз, немка, хата, неба, Чымкент, нераст, Баранавічы, нюх, Ева, чума, Падуя, баласт, жаніх, паднос, собаль, Сумы, войт, балван.

Рашэнне: **Я зноў, каханая, з табою, мы ў красках вязнем лугавых, не бачым неба над сабою, не чуем пад сабой травы.**

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# 2012 год

**(22.03. — 20.04.)** Будзеш кемлівы і незалежны. Паявіцца твае заробкі. У першай палове года рэгулярна мерай ціск крыві. Першая палова — час росквіту. У другой палове — новыя магчымасці, узмоцніш сваю пазіцыю, адкрыеш галіну, якой будзеш займацца ў наступныя гады. Ніколі не сумнявайся ў сэнс сваіх дзеянняў!

**(21.04. — 21.05.)** Усё, за што возьмешся ў першай палове года, дасць працэнты ў другой: тады ўсё, да чаго дакранешся, зменіцца ў золата. 5.03.-3.04. не будзе для цябе спраў не да афармлення. 19.04.-20.05. развінеш усе таленты, многа зробіш, зацікавіцца табою хтосьці уплывовы. Магчымая хвароба, доўгае лячэнне — будзь паслядоўным.

**(22.05. — 22.06.)** Усмешкі шчасця, фантастычныя нагоды амаль штохвіліны. На працы — вялікі крок уперад. Ад 11.06. час працвітання, рэалізацыя смелых планаў дзяцінна лёгкая. Перашкоды і цяжкія сітуацыі могуць паявіцца ў апошнім квартале; значна больш працы, ды вялікае пасля задавальненне. Апошнія тры месяцы прызнач на паправу здароўя.

**(23.06. — 23.07.)** Будзеш мець больш часу і... грошай. Адважся на радыкальныя змены ў прафесійным жыцці. Час кінуць выклік лёсу і выплысці на шырокія воды. Любоўныя заваёвы. Адносна фінансаў увесь год будзь вельмі асцярожны і даверлівы, асабліва з пазыкамі. У другой палове года задбай аб сваю душу і цела.

**(24.07. — 23.08.)** Твае мары будуць здзяйсняцца адна за адною; спрыянне лёсу. Будзеш адважны, засяроджаны і вельмі ўдачлівы. Развіцці кар'еры ў ашаламляльным тэмпе. Зробіш больш чым спадзяешся 27.01.-14.02. — вялікая творчая ўява, ды нялёгкі час на падпісванне дамоў. Пералом чэрвеня і ліпеня прынясе крыху нервовых сітуацый (падарожжы, установы).

**(24.08. — 23.09.)** Час цудоўных поспехаў і вялікай папулярнасці. Узбярэшся на кар'еры пік. Добра дома. А калі закахаешся, дык надоўга. Першыя тры кварталы — час ашчаднасцей. Першае паўгоддзе — добры час на пошукі працы. Ад ліпеня — вялікія поспехі, аб якіх ты марыў. Ад 11.06. рушай у свет. Прыкрая на працы апошняя дэкада чэрвеня.

**(24.09. — 23.10.)** Зікне шмат тваіх праблем. Адчэпішся ад таксічных людзей, спраў і звычак. З новай энергіяй рушыш у бой і дасягнеш усіх сваіх мэт. Не бойся нават найцяжэйшых заданняў. Аграмаднае шчасце ў пачуццях і фінансах у палове сакавіка — грошы можаш знайсці проста на вуліцы!

**(24.10. — 22.11.)** Укінеш пяты ход і далёка за табой застанецца канкурэнцыя. Будзеш жыць на поўныя грудзі. Аж да восені маеш зялёнае святло на ўсіх франтах. Што вырашыш — тое і адбудзецца. Восенню — цяжкія выпрабаванні (пераможаш). Мець высока, ды добра, дэталёва рыхтуйся. Крыху горшая кан'юнктура ад паловы мая да апошніх дзён чэрвеня.

**(23.11. — 22.12.)** Год бурлівы, ды вельмі ўдалы. Можаш зусім адмяніць сваё жыццё, асабліва ў палове чэрвеня. Свет больш каляровы і радасны. Варта прыкласціся да працы ў лютым, маі і кастрычніку; яшчэ і падвучыся. Здароўя пільнуй у красавіку, чэрвені і кастрычніку. У палове сакавіка можаш больш зарабіць, важныя рашэнні, якія могуць змяніць тваё жыццё. На пераломе чэрвеня і ліпеня не панікуй.

**(23.12. — 20.01.)** Пакінь план мінімум — мець так высока, як удасца, бо маеш шанц усё зрэалізаваць. Год сюрпрызаў (не заўсёды мілых). Можаш наведаць месцы са сваіх мараў. Дакажаш, што ў здаровым целе здаровы дух. 17.11.-26.12. — пераадолееш усе перашкоды. Палова лютага, жнівень і пачатак лістапада — страты, горыч, праблемы са здароўем; старайся не перайманца.

**(21.01. — 19.02.)** Вялікае шчасце; зможаш пераносіць горы! Вялікія поспехі. У каханні: ніколі не кажы ніколі. Крызіс міне цябе ў фінансах. Другая палова ліпеня — знойдуцца грошы! Другая палова чэрвеня і палова верасня — складанасці і перашкоды; перачакай.

**(20.02. — 21.03.)** Лёс паспрыяе здзейсніць твае мары. Каханне, кар'ера, грошы — як рукой падаць. Змагайся за сваё. Неспадзеўкі і карысныя нагоды. У палове сакавіка здзяйсненне мараў, на якія ты ўжо не разлічваў. Пільнуй кашалька ў другой палове лістапада.

Агата **АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.

**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Міхась Сцепанюк, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.

Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej — 32,5 zł., półrocznej — 65 zł., rocznej — 130 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Jana Kazimierza 31/33, 01-248 Warszawa; telefony: +48(0)22 53-28-823 — prenumerata płatna w walucie obcej, 0-2253-28-816, 53-28-819; — prenumerata płatna w PLN; nr faxu: 0-2253-28-734
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2011 roku — 52.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład**: 14 000 egz.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Дэбют — чатырнаццаты раз

**Завяршыўся XIV выпуск Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы „Дэбют", арганізаванага „Нівай" і Беларускім саюзам у Польшчы. Урачыстае заканчэнне конкурсу, які працягваўся ад мая 2011 года, адбылося 17 снежня. Прыняло ў ім удзел 39 аўтараў, прыслаўшых для ацэнкі свае творы ў 41 падборку тэкстаў, у дзвюх узроставых катэгорыях: у I групе — вучні пачатковых школ і гімназій (13 падборак), і ў II групе — вучні сярэдніх школ і дарослыя (28 падборак).**

Сярод аўтараў дасланых прац дэбютавалі 24 асобы: з першай групы — 12, і з II групы — 12. Найменшыя аўтары — вучаніца трэцяга класа ПШ у Нараўцы Вікторыя Патонец дэбютавала летась, а пераможца ў I катэгорыі Аляксандра Яроцкая, вучаніца IV класа ПШ у Гарадку — дэбютантка. Гонар Гарадоцкай гміны ў літаратуры сёлета падтрымалі таксама сеніёры — паэты Анатоль Парэмбскі і Ян Федзюкевіч. Затое першынство трымала Нараўчанская гміна: 12 падборак малышоў было якраз з нараўчанскай школы, але з тае гміны і пераможцы — II месца ў паэзіі семяновец Павел Марыюш Бірыцкі, сёлетні выпускнік гайнаўскага белліцэя (дэбютант), ужо студэнт лясніцтва Беластоцкай палітэхнікі, ды II месца ў прозе — нараўчанка Аляксандра Бяляўская, цяпер студэнтка V курса геbраістыкі Варшаўскага ўніверсітэта. З меншых дэбютантаў III месца ў першай групе здабыла Эва Саковіч са Старога Ляўкова ды вылучана Наталля Марчук з Нараўкі. Паявіліся аўтары з Баб'яй-Гары, Тарнопаля, Новай Лукі, Семяноўкі, Пасек, Лешукоў, Новага і Старога Ляўкова... Найбольш з пачатковай школы, гімназіі, адна студэнтка (ветэрынарыі — Мартына Леанеўская). Студэнтаў сярод аўтараў конкурсу было толькі трое — і толькі адна асоба з беларускай філалогіі — Уршуля Шубзда, затое з Сухавольскай гміны. Міхалоўскую гміну паспяхова прадставіў Багдан Дудко з Цісоўкі, якога празатарскі твор „Песня выгнаннікаў" быў ацэнены журы на I месцы (у мінулым годзе вершы гэтага аўтара занялі III месца). З паўднёвых канцоў Беласточчыны аўтары даслалі тэксты з Сямятыч — Язэп Карпюк (лапідарныя крылатыя думкі) і Уладзімір Сідарук (апавяданне з часу вайны) з Кузавы пад Чаромхай. А на конкурс заявіліся аўтары аж з Пазнаншчыны — Анатоль Маўчун і Віталь Воранаў. Сярод старэйшых аўтараў, пастаянна прымаючых удзел у конкурсе, ёсць і былая прадаўшчыца Зінаіда Кандрацюк, і гісторык Ніна Бручко-Анджэюк (Беласток), і селянін Мікалай Лук'янюк (Бялкі Нарваўскай гміны), нянечка ў гайнаўскім шпіталі Ірэна Лукша. Першы раз паявіліся з вершамі Зоя Майстровіч з Рудутаў і былая працаўніца каналізацыі Вольга Іванюк (82 гады) з Беластока з Анатолем Парэмбскім (84) і Анатолем Маўчуном (85) — сеніёры „Дэбюту". Кожны ў сваім слове ўсхваляе сваю старонку, месца, тлумачыць стан сваёй душы. Вершы Веры Масайла з Гайнаўкі, вядомай аніматаркі культуры, былі вылучаны камісіяй на III месцы (асабліва верш „Гайнаўка")...

— Сёлетні выбар твораў быў вельмі багаты і на вельмі высокім узроўні, — звярнуў увагу член журы, вядомы паэт Ежы Плютовіч. — Аднагалосна вылучылі мы творы пераможцаў, прыкмячаючы іх перавагі сярод іншых неблагіх матэрыялаў.

— Лаканічна, трапна і вобразна, — ацаніў вершы Міхаліны Герасімюк з Гайнаўкі, пераможцы I месца ў паэзіі, Ян Трацяк з Гродна, літаратуразнавец і выкладчык. Звярнуў ён таксама ўвагу на вялікую нізку вершаў Каваля — семяноўца Паўла Марыюша Бірыцкага, верш Мартыны Леанеўскай „Разам", адзначыў народны пафас вершаў Анатоля Парэмбскага („Чароўны звон"), Янкі Федзюкевіча („Зоры"), ляшуцкага Тадэвуша Кунцэвіча („Дні царкоўнай музыкі"). Янка Трацяк звярнуў увагу таксама на фантастычныя творы Ірэны Лукшы „Марк і іншапланецяне" і „Помста пласканідаў", вылучыў намінацыю „мемуарная літаратура", а ў ёй гістарычнае эсэ „МарКОТнага" — Анатоля Маўчуна „Чалавек і чалавечнасць", „Белага гругана" — Пятра Крука (апавяданне „Паралізаваў мяне страх"), „Мацейкі" — Уладзіміра Сідарука — апавяданне з часу вайны „Правакатар", Сцяпана Карбоўскага — „Замчыска", „Мамы Тані" — Іаанны Чабан абразок-успамін „Калісь летам", а таксама „Улляны" — Уршулі Шубзды нарыс „Попел на вецер" пра вядунню з Вярхлесу.

— Я скажу тое яшчэ раз, — прызналася старшыня камісіі, вядомая паэтэса Надзея Арымовіч, — што гэта самы цяжкі шлях — працаваць у літаратуры. Гэта значыць настойлівая самастойная праца. І ўласная індывідуальнасць. Мяне цешыць, што ў кожным выпуску „Дэбюту" сустракаем людзей, якія ствараюць аснову. Можа вырасці з іх нехта, што зазначыць сваю прысутнасць у літаратуры. Конкурс гэта нагода сканцэнтраваць свае сілы, сканфрантавацца з іншымі. Удзел і вылучэнне ў конкурсе — вялікая набілітацыя. Што неабходна аўтару? Чытаць, чытаць і яшчэ раз чытаць. І няважна, чым займаемся самі. Гэта пашырае і ўласны свет, і зразуменне пэўнай артыстычнай формы. Сёлета бачны вялікі рост некаторых аўтараў, і высокі агульны ўзровень матэрыялу, які запрапанавалі аўтары.

— Гэта вялікая сям'я, якая паміж сабою знаёміцца, знаёміцца і са здабыткамі калег, — сказаў на завяршэнні конкурсу старшыня Беларускага саюза і галоўны рэдактар „Нівы" Яўген Вапа. — Людзі розных пакаленняў, розных узростаў, пасля друкуюцца ў прафесійных літаратурных часопісах. Гэта вялікі стымул для ўсіх нас, як арганізатараў „Дэбюту", каб памагчы даць дарогу ў літаратурную прастору нашым аўтарам. Гэта вельмі важнае, што вы ў сённяшні час апісваеце ў родным слове нашу рэчаіснасць, сябе ў ёй. Наш „Дэбют" уносіць столькі сілатворных момантаў у нашу тутэйшую літаратуру, у агульнабеларускую прастору. Выбар слова і павага для слова — гэта паказальнік нашых аўтараў розных пакаленняў і жыццёвага досведу. Застаецца праца, развіццё таленту. На працягу паўгода будзем знаёміцца ў „Ніве" з дасягненнямі нашых „дэбютантаў".

Конкурс прайшоў дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі.



Маладыя ўдзельнікі конкурса з Нараўчанскай гміны



Старэйшае пакаленне ўдзельнікаў „Дэбюту"



Сярэдняе пакаленне канкурсантаў



ISSN 0546-1960